*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года   № 8 (744)   22 ЛЮТАГА 2006 г.

## 21 ЛЮТАГА - МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

Міжнародны дзень роднай мовы абвешчаны на ўсеагульнай канферэнцыі ЮНЭСКА ў лістападзе 1999 г. і адзначаецца 21 лютага з 2000 г. з мэтай абароны моўнай і культурнай разнастайнасці. Дата супадае з Днём пакутнікаў за мову (Language Martyrs' Day), які адзначаецца ў Бангладэшы як дзень памяці аб крывавых падзеях 1952 г., калі пакістанская паліцыя расправілася з прыхільнікамі прызнання бенгальскай мовы ў якасці афіцыйнай ва Ўсходнім Бангладэшы (адносіўся тады да Пакістана).

У розных краінах свету людзі сёння гавораць прыкладна на 3000-6000 мовах. За апошнія тры стагоддзі тэмпы згасання або знікненні моў толькі ўзрастаюць, асабліва гэта характэрна для амерыканскага кантынента і Аўстраліі.

Такія дадзеныя і высновы прыводзяцца ў другім, пашыраным выданні Атласа моў свету (2001 г.), якім пагражае знікненне. Выданне (на англійскай мове) утрымоўвае 14 каляровых карт і 24 старонкі каментароў, што дае магчымасць убачыць "гарачыя кропкі планеты", дзе моўная разнастайнасць знаходзіцца пад пагрозай. Паводле меркавання адмыслоўцаў, родная мова знаходзіцца пад пагрозай знікнення, калі ў той ці іншай супольнасці яе вучаць менш за 30% дзяцей.

Атлас адзначае, што ў Еўропе пад пагрозай знікнення знаходзяцца каля пяцідзесяці моў, у тым ліку беларуская. Некаторыя з іх, напрыклад, лапландскія, на якіх гавораць у скандынаўскіх краінах і на поўначы Расіі, паступова паміраюць..

У раздзеле "Сібір" паведамляецца, што большасці мясцовых моў заходняй і паўднёвай Сібіры пагражае знікненне. Гаворка, у прыватнасці, вядзецца пра фіна-вугорскія (мовы ханты, мансі, комі, мары і інш.), самаедскай (ненцы), цюркскія (якуты, тувінцы, хакасы, далганы, алтайцы і інш.) і тунгуска-маньчжурскія (нанайская, негідальская, ароцкая, арочская, удэгейская, ульчская, эвенкійская і эвенская) мовы. На Каўказе, у прыватнасці, у Дагестане і Грузіі, мясцовыя мовы таксама знаходзяцца пад пагрозай знікнення.

У Азіі сітуацыя з роднымі мовамі не аднязначная. У многіх раёнах Кітая ціск кітайскай мовы асабліва вялікі на паўночным усходзе краіны і ў правінцыі Юнань. А на Індастанскім паўвостраве, дзякуючы палітыцы шматмоўя, большасць карэнных моў захоўваецца. Толькі невялікая колькасць моў знікае, напрыклад, у раёне Гімалаяў і Паміра. На Андаманскіх астравах (Бенгальскі заліў) на мовах онге і шомпен сёння гавораць толькі некалькі дзесяткаў чалавек.

У Паўночнай Амерыцы вельмі нешматлікія інуіцкія (эскімоскія) мовы вытрымалі ціск французскай і англійскай моў. У апошнія гады Канада робіць значныя намаганні па захаванні гэтых а таксама 104 іншых індзейскіх моў. У ЗША пакуль выжываюць 104 мовы індзейцаў, у той час як да прыходу еўрапейцаў тут іх было некальгі сотняў.

Самым мала вывучаным у лінгвістычным плане з'яўляецца афрыканскі кантынент. Тут шматлікія дзяржавы заахвочваюць перавагу "вялікіх" афрыканскіх моў, такіх як суахілі, і нават моў былых метраполій. Па меркаванні аўтараў Атласа, з 1400 мясцовых моў не меньш за 250 знаходзяцца пад пагрозай знікнення, а ад 500 да 600 ужо знікаюць. Самая дрэнная сітуацыя ў гэтым плане ў Нігерыі, Эфіопіі, Кеніі, Угандзе, Танзаніі і Судане.

Прычыны, што вядуць да знікнення роднай мовы, могуць быць рознымі. Першая з іх - разбурэнне або перамяшчэнне той або іншай моўнай супольнасці, чальцы якой аказваюцца ў культурнай і моўнай меншасці. Родная мова можа знікнуць, калі яе носьбіты ўступаюць у кантакт з іншай, больш "агрэсіўнай" або эканамічна мацнейшай культурай. Бацькі заахвочваюць дзяцей вучыць мову дамінуючай культуры ў разліку на тое, што тым будзе лягчэй знайсці працу ў будучыні. Нарэшце, некаторыя нацыянальныя меншасці і іх мовы падвяргаюцца агрэсіі з боку тых, хто руйнуе навакольнае асяроддзе з мэтай здабычы прыродных выкапняў. Сітуацыя ў такіх выпадках яшчэ больш абвастраецца, калі ўлады сістэматычна абмяжоўваюць выкарыстанне мясцовых моў - у школе, у адміністрацыйных структурах, у СМІ.

Аднак пры наяўнасці палітычнай волі мовы, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення і нават ужо зніклыя, могуць быць выратаваны. Так, напрыклад, у Японіі ў канцы 80-х на востраве Хакайда на мясцовай мове айну гаварылі толькі восем чалавек. Сёння ж гэтая мова адраджаецца. Створаны музей айну, моладзь мае магчымасць бясплатна вучыцца мове на адмысловых курсах. У Англіі адроджаны мэнская (знікла ў сярэдзіне 20 ст.) і корнская (знікла ў 18 ст.) мовы, якімі карыстаецца цяпер некалькі тысячаў чалавек.

*Ул. Кошчанка.*

## Зберажом усё, што ацалела



У канцы 2005 года шэрагу аб'ектаў у Лідзе нададзены статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Сярод іх адміністрацыйны будынак 1912 года. Да рэвалюцыі дом належаў купцу Гурэвічу. Пры Польшчы ў гэтым доме раз-мяшчаўся Лідскі школьны інспектарат.

Дом класічнага стылю, П-падобны ў плане, з мансардавым дахам, з двума дзвюхкалоннымі порцікамі на фасадзе. Цэнтральны ўваход фланкаваны пілястрамі, раней тут меўся дзвюхкалонны порцік з франтонам, ссунутым у пешаходную частку вуліцы. У тылавой частцы будынка тэраса з высокім паўкруглым ганкам, фланкаваная бакавымі крыламі.




У Лідзе, увесь цэнтр якой быў разбомблены, вельмі мала засталося пабудоваў канца 19 - пачатку 20 стагоддзя, і надзвычай важна, што сённяшнія лідскія ўлады правільна разумеюць неабходнасць захавання таго, што ацалела ў час дзвюх сусветных войнаў і робяць усё магчымае для зберажэння нашай спадчыны.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Конкурс патрыятычнай песні па-беларуску



На мінулым тыдні ў Лідскім гарадскім доме культуры праходзіў конкурс патрыятычнай песні сярод маладых выканаўцаў. Падчас конкурсу прагучала больш сямі дзесяткаў песень на патрыятычную тэму. Як ні дзіўна, але каля 80% песень прагучала на беларускай мове, і гэта пры тым, што многія песні былі напісаны самімі маладымі аўтарамі.

*ЯраслаўГрынкевіч.*

**На здымку:** сябар ТБМ групы С-2 Лідскага педкаледжа **Дзіяна Лобан** выконвае песню Святланы Мазітавай "Пераможны дзень" на словы намесніка старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Міхася Мельніка.

## Санскрыт у Індыі набыў статус класічнай мовы

Старажытнай індаеўрапейскай мове **санскрыту** ў Індыі заканадаўча нададзены статус класічнай мовы. Гэта значыць, што цяпер ва усіх ВНУ, у якіх вывучаюць класічныя мовы павінны будуць вучыць санскрыт, які на сёння, як, скажам, і латынь, з'яўляецца мёртвай мовай.

Найбольш аптымістычныя спадзяванні з гэтай нагоды заключаюцца ў тым, што санскрыт удасца ажывіць, і ён зможа стаць мовай міжнацыянальных зносін у Індыі, замяніўшы хіндзі і англійскую мовы.

Санскрыт, аднак, мае права на статус класічнай мовы не толькі ў Індыі, але і ў большасці краін Еўропы і абедзвюх Амерык з Аўстраліяй. Таму вельмі добра, што ёсць пачатак, магчыма, неўзабаве санскрыт будуць вучыць і ў ВНУ Беларусі.

*Наш кар.*



# Дзейнасць Віцебскай гарадской арганізацыі ТБМ у 2005 годзе

1. Рэгулярна (ужо восьмы год) працуе нядзельная школа "Празоры" для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Школа арганізавана ТБМ, цяпер месціцца і працуе пры абласным аб'яднанні пазашкольнай працы. Сёлета ў школе больш за 50 дзяцей далучаюцца да беларускай мовы, вывучаюць народныя звычаі, спевы, танцы, этыкет. Кіруе гэтай школай выкладчыца віцебскага дзяржаўнага універсітэта, суполніца гарадской рады ТБМ Кернажыцкая Л. П. З бацькамі дзяцей гэтай школы праводзілі гутаркі пра такія народныя святы як каляды, гуканне вясны, камаедзіцы, Юр'я і інш.

2. ТБМ разам з пісьменніцкай арганізацыяй ладзіла сустрэчы з пісьменнікамі, што наведвалі Віцебск (Бураўкін, Гілевіч, У. Арлоў).

3. Адзначаліся ўгодкі В. Быкава і У. Караткевіча.

4. ТБМ працягвала супрацоўнічаць з аддзелам беларусазнаўства і краязнаўства абласнога аб'яднання пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі, дзе ладзіліся адпаведныя конкурсы па краязнаўству, конкурсы на лепшыя заняткі настаўнікаў-краязнаўцаў з дзецьмі з краязнаўчых гурткоў.

5. Праца суполкі ТБМ на заводзе "Віцязь" спрыяла выпуску часткі суправаджальнай дакументацыі завода на беларускай мове.

6. Гарадская рада ТБМ выступіла (безвынікова) са зваротам да абласных і гарадскіх уладаў надаць абласной бібліятэцы імя Васіля Быкава.

7. Правялі 7 экскурсій па гістарычнаму цэнтру Віцебска з дзецьмі краязнаўчых гурткоў, з вучнямі лужаснянскай гімназі, з настаўнікамі матэматычнага семінару, што праводзіўся на базе лужаснянскай гімназіі.

8. Накіроўваліся лісты ў камісію па правах чалавека, нацыянальных дачыненнях і сродках масавай інфармацыі: Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь з нагоды невыканання арт. 50 Канстытуцыі; РБ і арт. 21 Закона аб мовах пры падрыхтоўцы па-беларуску настаўнікаў-прадметнікаў сярэдніх школ у аб'ёме, які патрабуецца ў адпаведнасці з вынікамі перапісу насельніцтва 1999 года.

Накіраваны лісты старшыням палат Нацыянальнага Сходу Канаплёву У.М. і Навіцкаму Г.В. з прапановамі замацаваць заканадаўча прыярытэт беларускай мовы ў сферы грамадскага ўжытку; стварыць нацыянальны беларускі універсітэт; абавязаць будучых настаўнікаў-прадметнікаў дасканала валодаць беларускай мовай для выкладання свайго прадмета па-беларуску; забараніць перавод вясковых школ у стан рускіх, а тыя , што зрабілі рускімі, перавесці: ў стан беларускіх; замацаваць, зрэшты, заканадаўча правіла, што ў кожным раёне горада ці мястэчку павінна існаваць неабходная колькасць беларускіх дзіцячых садоў, якія будуць забяспечваць неабходную колькасць першакласнікаў для беларускіх школ.

Накіраваны лісты ў Віцебскі гарвыканкам і гарсавет з нагоды знішчэння ў апошні час надпісаў па-беларуску на вакзалах, пошце, крамах, перайменавання кнігарань і замены іх беларускіх назваў рускімі, напрыклад , "Веды" на "Книги", "Крыніца" на "Книжный мир" і інш.

9. Праведзены сустрэчы з віцебскімі дэпутатамі Нацыянальнага Сходу Сямашкам С.А. Гутковым А.Б., Крот З.К., Івановым Г.А., адбылася гутарка з дэпутатам Арцёменка з мэтай узбудзіць у Нацыянальным Сходзе ініцыятыву аб зменах у Законе аб мовах на карысць беларускай мовы і сферы яе пашырэння ў грамадскім ужытку. Для гэтых дэпутатаў была падрыхтавана кароткая даведка з гісторыі і сучаснага стану беларускай мовы. Усе названыя дэпутаты стаяць на пазіцыях афіцыйнага дзвюхмоўя.

*Старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ – Арлоў В.*

# Справаздача

## Шклоўскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны за 2005 год

За адпаведны перыяд удалося зрабіць:

I. Сумесна з адміністрацыяй Шклоўскага ПТВ-139 былі арганізаваны наступныя мерапрыемствы:

1.Адбылася сустрэча навучэнцаў вучылішча з мясцовымі беларускамоўнымі паэтамі Мікалаем Лесюковым і Галінай Мароз.

2. Адбылася вучнёўская канферэнцыя на тэму "Рэлігійныя ўплывы на Беларусі" з удзелам мясцовых святароў Спаса-Праабражэнскй царквы і касцёла св. Пятра і Паўла. Канферэнцыя праходзіла на беларускай мове (па-расійску прагучала толькі выступленне праваслаўнага святара).

II. Сумесна з парафіяй касцёла св. Пятра і Паўла была падрыхтавана сустрэча з пісьменніцай Ірынай Жарнасек, якая назнаёміла ўдзельнікаў сустрэчы з новай кнігай "Будзь воля Твая".

III. Сябры суполкі (Л.Анціпенка, М. Лесюкоў, А. Грудзіна) падрыхтавалі некалькі артыкулаў, дзе закрананіся моўныя пытанні, для газет "Наша слова", "Магілёўскія ведамасці" і раённай газеты "Ударны фронт". Аўтар справаздачы прыняў удзел у "Краснапольскіх краязнаўчых чытаннях" і выступіў з паведамленнем "Хрысціянскія святыні Шклова", якое было надрукавана ў газеце "Наша слова".

IУ. Сябры суполкі павіншавалі і выказалі ўдзячнасць нашаму старэйшаму сябру, журналісту і літаратару Лявону Анціпенку з нагоды юбілея, 70-годдзя ад Дня народзінаў.

На вялікі жаль наша суполка панесла страты. У лістападзе адышоў у вечнасць Мікола Лесюкоў, чалавек складанага лёсу, аграном па адукацыі, які выдаў дзве кнігі вершаў на беларускай мове "Іду насустрач сонцу..." і "На плыні жыцця", друкаваўся ў перыядычных выданнях.

Ад'ехала ад нас на новае месца жыхарства ў горад Лагойск Галіна Мароз. Трэба параіць мясцовай суполцы ТБМ сустрэцца з гэтай цудоўнай жанчынай.

*А. Грудзіна.*

# Справаздача Верхнядзвінскай раённай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны за 2005 год

**Краязнаўчая дзейнасць.**

*Ажыццёўлены вандроўкі:*

- па святых мясцінах - Расіца (пілігрымкі ў лютым і жніўні);
- на радзіму Ігната Храпавіцкага – Каханавічы (у сакавіку і верасні);
- на радзіму І. Чэрскага ў "Забельскае сузор'е" – Валынцы, з экскурсіяй у музей;
- на радзіму Эдуарда Самуйлёнка (у траўні і жніўні)

Запісаны і сістэматызаваны (у электронным варыянце) паданні Верхнядзвіншчыны. Праведзена экскурсія па гістарычных мясцінах Верхнядзвіншчыны для дырэктараў школ г. Наваполацка (верасень). Распрацаваны ўмовы і пытанні краязнаўчых віктарын, для іх правядзення на турыскіх злётах школьнікаў, настаўніцтва і моладзі (май – чэрвень). Аказана метадычная дапамога ў распрацоўны трохгадовай праграмы факультэту па краязнаўстве Верхнядзвіншчыны для настаўніцы гісторыі СШ № 1 Л. Булаўскай (снежань.)

**Вечарыны, конкурсы**

Праведзена літаратурная вечарына да юбілею аб'яднання "Дзвінскія заранкі" – з удзелам пісьменнікаў А. Пашкевіча, С. Панізніка, Ф. Сіўко. С. Законнікава. На вечарыне сталічныя госці перадалі верхадзвінцам 20 камплектаў першых трох тамоў поўнага выдання твораў В. Быкава (лістапад).

Праведзены літаратурны конкурс "Маладыя галасы" (травень).

Віншаванні з юбілеямі сяброў ТБМ і інш.

**Супраца з установамі культуры і адукацыі**

*Напісаны сцэнарыі:*

- трохактавага спектаклю "Х-У" – і мініяцюры "І гэта ўсё аб ім" – для РДК;
- выступу фальклорнага ансамблю "Ярыца" на пацверджанне звання "народны";
- 8 канцэртаў народнага калектыву – хору клуба ветэранаў "Надзея";
- конкурснага выступу – Жагулёўскаму сельскаму клубу;

Распрацаваны і ажыццёўлены сцэнар фальклорнага свята Купалле – Сенькаўская суполка ТБМ з запрашэннем гуртоў з Латвіі, Расіі, Менска.

Напісаны паэтычныя застаўкі і песенныя тэксты для народнага фальклорнага калектыву "Крынічка" пры Верхнядзвінскай школе мастацтваў

Аказана дапамога ў падрыхтоўцы сцэнараў святаў і прэзентацый сельскім клубам:

- да Дня Перамогі;
- да рэспубліканскага семінару працаўнікоў гандлю;
- да рэспубліканскага конкурсу маладых прадаўцоў;
- да раённага свята кветак;

*школам:*

- "педагагічная гасцёўня" – Галубоўскай СШ;
- да конкурсу "Настаўнік году" – СШ № 1;
- да абласнога злёту турыскай моладзі – аддзелу спорту і турызму райвыканкаму;

**Выдавецкая дзейнасць**

Выдадзены 8 нумароў бюлетэню ТБМ "Рубон".

Выпушчаны буклет "Паўночныя азёры" на 4-х мовах (бел. лат. ням. рус.).

Выпушчаны ( з электронным варыянтам) краязнаўчыя нарысы "Паўночныя азёры" і "Там, дзе пячэ Сар'янка".

Падрыхтаваны электронны варыянт кніг "Падарожжы па Верхнядзвіншчыне".

Напісаны матэрыял "Не вер вачам сваім" у раённую газету "Дзвінская праўда".

Напісана некалькі матэрыялаў у газеты "Наша слова" і "Наша Ніва"

**Карэкцыйная і перакладчыцкая дзейнасць, супраца з СМІ**

Ажыццёўлены карэкцыя перакладу і часткове рэдагаванне кнігі "Память. Верхнедвинский район" выдавецтва Сібірскага Аддзялення Расійскай Акадэміі навук.

З нямецкай перакладзены тэксты рэлігійных спеваў хрысціянскай суполкі в. Нойнкірхен

З латышскай перакладзены фрагменты кнігі "Baltkrievi ka latviesu tautas zars", Riga, 1935 - для факультатыву краязнаўчага факультатыву СШ № 1 г. Верхнядзвінска.

З польскай перакладзены старонкі з "Slowniku geograficznego" пра мястэчкі Дрысенскага павету.

Праведзена падпіска на газету "Наша слова" на 2006 г.

**Супраца з клубамі "КЦС", "Ветэран", "Белыя вароны", "Сарокі". "Верабейкі"**

Раённая арганізацыя ТБМ цесна супрацоўнічае з іншымі самадзейнымі творчымі калектывамі, асабліва з пераліченымі вышэй. Сумеснымі высілкамі і пры самым актыўным удзеле сяброў ТБМ ладзяцца святы і вечарыны, сустрэчы, выставы, конкурсы і іншыя імпрэзы.

Плён дзейнасці нашай арганізацыі выяўляецца на ўмацаванні атмасферы дабразычлівых адносін і спрыяння пашырэнню ўжывання беларускай мовы ва ўсіх сектарах грамадскага жыцця. Так за апошні год вынікам нашага адкрытага ліставароту да адміністрацыі раёну стала замена шмат якіх рускамоўных і іншамоўных шыльдаў на ўстановах гандлю на беларускамоўныя. Большасць сцэнараў на ўстановах культуры агучваецца па-беларуску. На беларускай мове праводзяць свае конкурсныя выступы на ўсіх узроўнях турыскія каманды школьнікаў і моладзі. Па-беларуску праводзяцца экскурсіі ў Валшпецкім музеі (Алена Карценка) і музеі СШ № 1 (Л. Булаўская). а таксама краязнаўчыя экскурсіі ў Расіцы (Алена Мінчанка), Сар'і (У.Фёлараў). Верхнядзвінску (Л. Бубала. В. Кудлацкая).

На беларускай мове праводзяцца багаслужэнні ў касцёлах раёна.

Адмоўным на агульным фоне беларушчыны з'яўляецца факт моўнага "гермафрадытызму" раённай газеты "Дзвінская праўда".

*Старшыня раённай арганізацыі – А. Бубала*
*Сакратар – В. Кудлацкая*

# Справаздача

## Мікуліцкай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны Бярэзінскага раёна за 2005 год

На 2005 год Мікуліцкая суполка ТБМ імя Францішка Скарыны налічвала пастаянных пяць сяброў. Адзін сябар ТБМ быў вучань 9-га класа мясцовай Мікуліцкай базавай школы паступіў вучыцца ў каледж трактарнага завода, але шэрагі сяброў ТБМ не пакінуў. Астатнія чатыры сябры – гэта пастаянныя настаўнікі мясцовай школы. Нажаль школа мае мала вучняў, і нас у наступным 2006 годзе могуць далучыць да суседняй сярэдняй Лагоўскай школы. Вось такія сумныя вынікі.

Шмат папрацавалі нашы сябры. Гэта Аўсяннікава Тамара, Верхачуб Уладзімір, Шалупенка Васіль, Леанід Красоўскі.

Наша праца заключалася ў распаўсюдзе беларускіх газет "Наша слова", "Народная воля" , "Беларуская рэгіянальная газета", "Звязда" да іншых сярод насельніцтва раёна, а таксама мастацкай літаратуры.

Праводзіліся лекторыі на гістарычныя тэмы – гэта:

1. Да 85 угодкаў Слуцкага збройнага чыну (Леанід Красоўскі), 27 лістапада – вёска Мікулічы.

2. Да 595 угодкаў Грунвальдскай бітвы (Васіль Шалуненка), 15 ліпеня 2005 года , вёска Лагі.

3. Да 491 угодкаў Аршанскай бітвы (Тамара Аўсяннікава) 8 верасня 2005 года, горад Беразіно.

4. Да 97 угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года (Валодзя Верхачуб) 25 сакавіка 2005 года, горад Беразіно.

У самой школе праводзіліся гутаркі, вечарына беларускай песні і паэзіі, лекторый на святы і ўгодкі асноўных датаў пісьменнікаў і паэтаў, гістрычных падзей беларускай мінуўшчыны.

Сярод мясцовага насельніцтва прыцягнула ўвагу сустрэча з пісьменнікамі і бардамі Уладзімірам Арловым і Зміцерам Бартосікам, а таксама сустрэча з журналістам Радыё Свабода – Ягорам Маёрчыкам, калі яны наведалі Мікулічы.

Нашы сябры распаўсюджвалі аўдыёкасеты з беларускімі песнямі, танцамі, казкамі.

Гэтая праца будзе праводзіцца і ў наступным 2006 годзе.

*Старшыня мікуліцкай суполкі ТБМ Леанід Красоўскі.*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

*Алесь Мара*

# Гэта Купава

**"Дысідэнт Мацей Бурачок з-пад Барысава"**

Яшчэ ў студэнцкія гады, калі Мікола Купава вучыўся на аддзяленні графікі тэатральна-мастацкага інстытута, ён, сярод іншых, быў заўважны як апантаны абаронца беларушчыны. Гэтаму спрыяла пэўная атмасфера ў навучальнай установе, асабліва ў атачэнні вольнадумнага студэнцтва. Кантакты з сябрамі-аднадумцамі і тымі, хто адкрыта, не хаваючы сваіх поглядаў, змагаўся за адраджэнне нашых ідэалаў, а перадусім, каб беларуская мова напоўніцу гучала ў школах і вышэйшых навучальных установах, хто насуперак баявым і бадзёрым бальшавіцкім заклікам імкнуўся аднавіць гістарычную памяць, — акрыляла маладога мастака.

Тады, на пачатку 70-х, у сценах інстытута была добрая завядзёнка – выпускаць маляўнiча аздобленую насценную газету, дзе мастакі давалі сабе волю не толькі сяброўскім шаржам ды сатырычным малюнкам, але маглі пакпіць з сваіх педагогаў. Выглядала гэта востра, нестандартна ў тыя замшэлыя гады застою. Пратэстнае мастацтва прабівала сабе дарогу. Побач з гэтым студэнты выпускалі насценную газету з краязнаўчымі матэрыяламі, артыкуламі, прысвечанымі беларускай даўніне, дзе можна было ўбачыць вобразы Еўфрасінні Полацкай, Лазара Богшы з славутым крыжам і шмат іншага. Якраз у гэты час у сценах мастацкай установы раптам з'явіліся ўлёткі, якія заканчваліся словамі "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" і подпісам – Мацей Бурачок з-пад Барысава. Улёткі былі наклееныя на калонах, дзвярах, дзе толькі магчыма. Зразумелая рэакцыя тых, хто быў адказны за ідэалагічны стан у інстытуце. Не ўгледзелі, не прасачылі... Інстытут калаціла не адзін дзень. Пачаліся праверкі, пошукі, падазрэнні. Тэлефон літаральна разрываўся ад званкоў вышэйшых партыйных босаў. "Кантора Глыбокага Бурэння" адсочвала кожны крок "неблагонадёжного" студэнцтва. Перш за ўсё браліся за мастацкае аддзяленне. Тэатралы, выхаваныя на "Вішнёвым садзе", "Чайцы" не маглі да такога дадумацца. Усе падазрэнні сыходзіліся толькі на мастаках. І яны ў гэтым не памыляліся. Тэрмінова, як падчас баявой атакі, праводзіліся паседжанні кафедры, рэктарату. Выявіць! Асудзіць! Пакараць! Трэба перш за ўсё знайсці, хто мог такое ўчыніць у нашай слаўнай установе. Народны мастак, вядомы сваімі партызанскімі сюжэтамі, былы разведчык выказаў, як стрэліў, лаканічна, не сумняваючыся: "Мацей Бурачок – гэта псеўданім дэсідэнта, які ўкараніўся ў нашыя рады. Трэба яго вывесці на чыстую ваду. Гэта беларускі Салжаніцын! Такім не месца ў інстытуце."

За Мацеем Бурачком з-пад Барысава — улёткай, якая ўзарвала соннае царства ідэолагаў ад культуры – стаялі студэнты-графікі. Хто быў завадатарам, можна толькі здагадвацца. Аднак вылічыць іх цэрберам не ўдалося. Пазней Мікола Купава паўторыць нешта падобнае, калі падчас макетавання кнігі паэзіі выдатнай беларускай паэтэсы Цёткі, прымеркаванай да 100-годдзя з дня нараджэння, ён у выглядзе ўлёткі ўклеіць факсімільнае выданне верша "Хрэст на свабоду".

**"Широка страна моя родная..."**

Канец 70-х, пачатак 80-х быў плённым для мастакоў, якія замест таго, каб ствараць творы сацыяльна значымыя, што працуюць на будаўніцтва камунізму, звярнуліся да сваіх каранёў, да ўласнай гісторыі. Было прадчуванне пераменаў. Гуртавалася нацыянальна свядомая моладзь, студэнцтва. Пачалося аднаўленне традыцыйных народных святаў. Загучалі беларускія абрадавыя песні. Ладзіліся карагоды. Гэта быў зорны час "Майстроўні", "Талакі", куды, натуральна, ішлі маладыя мастакі. Ва ўсіх гэтых імпрэзах прымаў удзел і Мікола Купава. Ідэалагічныя ўстановы адсочвалі незапланаванае імі, але былі бездапаможныя, каб прыпыніць гэтую хвалю. Напачатку, дзе толькі можна, яны ўкаранялі сваіх людзей, навязвалі казённашэрыя афіцыйныя сцэнары, ды ўсё марна. Набліжаліся іншыя часіны. Аднаго разу моладзь праявіла свой імпэт наладзіць Гуканне вясны на тэрыторыі музея пад адкрытым небам, што ў Строчыцах. Тамака, на маляўнічых узгорках, куды перанесеныя старасвецкія забудовы, драўляныя храмы, у поўны голас загучалі песні вясны. Дзяўчаткі ў прыгожых нацыянальных строях, з бел-чырвона-белымі стужкамі гукалі вясну. І пошчак старадаўніх песняў разнёсся па ўсёй тэрыторыі запаведніка. Нехта з адказных чыноўнікаў адчуў, што мерапрыемства выходзіць з-пад яго кантролю. Жвавы партыец, якому, па ўсім відаць, трэба дакладваць вышэйшаму начальству, парашыў узяць ініцыятыву ў свае рукі. Напачатку як бы зліўся з карагодам, а потым, гукнуўшы Міколу і мяне, прапанаваў праспяваць яшчэ адну песню. Нічога не падазраючы, мы сталі побач. А той, падбухторваючы нас, нечакана для ўсіх загаласіў "Широка страна моя родная...». Мікола і я з даўкім смехам узялі фальшывыя ноты, а начальнік працягваў сваім бадзёра-казённым голасам, зазываючы астатніх. Нехта з моладзі выгукнуў: "А мы ня ведаем гэтае песні!" Нам стала ніякавата. Мы замоўклі, нібыта таксама забыліся словы, якія з ранняга дзяцінства ўбівала ў нашыя галовы савецкая школа. Спроба чыноўніка закончылася няўдачай. Кожны з нас адчуваў, што настае час развітання з накінутымі на нас чужымі песнямі і самой гэтай "страной", у якой "много...полей лесов и рек" і "где так вольно дышит человек".

**"Як будзе, дык будзе... Лёс мой неад'емны ад лёсу нашага народу"**

1986 год. Вясна. За некалькі дзён да чарнобыльскага выбуху ў самым цэнтры Менска паветра страсянуў Чарнобыль духоўны. Школьнікі, у асноўным выхаванцы мастацкай школы-інтэрната імя Ахрэмчыка, гукалі вясну на беразе Свіслачы ў Траецкім прадмесці. Сярод іншых, Мікола Купава спрычыніўся да арганізацыі гэтага свята, якое праводзілася ў рамках Тыдня выяўленчага мастацтва. Нечакана на моладзь нападае нацкаваная гаркамам партыі група былых афганцаў. Жорстка збіваюць яны маладых дзяўчат і хлапцоў. Сваімі бруднымі нагамі топчуць папяровых птушак. У дзяўчат зрываюць з галоў вяночкі і рвуць іх на шматкі. Адзін з іх, на добрым падпітку, падбягае да дзяўчынкі, хапае яе за валасы. "Прекратите петь ваши песни. Я не понимаю по-белорусски!" Азвярэла выкрыквае: "Иначе брошу в Свислочь, будеш раков кормить..." Было такое. Было. Нават тагачасны расейскі друк адгукнуўся на гэты гвалт. Шмат пісалася і гаварылася. Праз некалькі дзён паветра страсянуў чарнобыльскі выбух. Ніхто з нас да гэтага не быў падрыхтаваны. У першыя часы ўлады маўчалі, як у рот вады набраўшы. Ніхто не папярэдзіў, як трэба паводзіць у гэтай сітуацыі, як зберагчыся ад навалы. Чынавенства традыцыйна рыхтавалася да майскай дэманстрацыі. ...Пройдзе нейкі час, і кожны з нас будзе ўспамінаць гэты дзень 26 красавіка 1986 года. Я са сваёй Ірынкай быў у ад'ездзе ў Барсуках, на Віцебшчыне. Ягорка, сын наш, знаходзіўся ў войску. Потым яго хуценька адправяць у самую забруджаную зону Хойніцкага раёна як ліквідатара. Сустракаю Міколу... Абодва ўстрывожаныя. Кожны хоча прыпомніць, дзе знаходзіўся ў гэты трагічны для краіны час. "А я памятаю, - кажа Мікола, - як бестурботна прагульваўся ў гэты дзень па вуліцах Менска. І была нейкая нясцерпная духата і вільгаць. Да чарнаты хмарнае неба засыпала дробным даждом гарадскі асфальт... Як будзе, дык будзе. Калі на тое, то і мой лёс неад'емны ад лёсу нашага народу."

*(Працяг будзе.)*




*Вязынка, 1980.*



*За свабоду, 1980.*



*Вільня, 1975. У майстэрні мастака Пётры Сергіевіча Віктар Сташчанюк, Мікола Купава, Генадзь Сокалаў-Кубай.*



№ 8 (744) 22 ЛЮТАГА 2006 г. наша слова

*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## *Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

X

*З глыбіні сцэны да рампы падыходзіць Дзмітрый. Ён у баявых даспехах пры шаблі і пістолях. Сабалінае футра накінута на плечы. Праз залу аглядае поле сечы, хрысціцца.*

**Дзмітрый** *(вельмі ўражаны ўбачаным)*. Божа літасцівы, што ж мы натварылі перад тварам тваім?! *(Слёзы засцілаюць вочы, царэвіч апускаецца на калені, плечы яго ўздрыгваюць, ён плача.)*

*З'яўляюцца двое рыцараў з ахочага польскага войска.*

**Першы рыцар** *(здзіўлена)*. Матка свента, здаецца, цар плача?..

**Другі рыцар** *(усміхаючыся)*. Скажы, цар, хто цябе пакрыўдзіў і нашы шпагі зробяць з яго рэшата.

**Дзмітрый** *(падняўшы галаву)*. Ідзіце прэч!

**Першы рыцар.** Э не, гасудар, спачатку ты заплаці за работу *(абводзіць рукою поле сечы)*, а прэч мы і без тваёй парады сыдзем.

**Дзмітрый** *(не ўцяміўшы)*. За што плаціць?..

**Другі рыцар.** За разгром маскалёў, а за што ж яшчэ?

**Першы рыцар.** За перамогу... першую, але сапраўдную.

**Дзмітрый** *(падняўшыся з каленяў)*. А-а-а... *(Рэзка.)* Жалаванне польскаму войску ваявода Мнішак выплочвае, да яго і звярніцеся. А лепш пасля пахавання згінулых.

**Другі рыцар.** А ваявода Мнішак да цябе пасылае.

**Першы рыцар.** У царэвіча, кажа, свой скарб.

**Другі рыцар.** Вы ўжо з ім дамоўцеся.

**Першы рыцар** *(настойліва)*. Заплаці напоўніцу і неадкладна... хоць двум нашым ротам!

**Другі рыцар.** Астатнія паглядзяць на нас і, можа, яшчэ застануцца.

**Першы рыцар.** Ці на кол цара пасадзяць. *(Рагоча.)*

**Дзмітрый.** Падыдзі, калі такі настойлівы. *(Лезе рукой ва ўнутраную кішэню футра.)*

*Першы рыцар набліжаецца да Дзмітрыя і той дае яму такую зубатычыну, што той не ўтрымліваецца на нагах. Другі рыцар у гэты момант хапае футра, якое з'ехала з пляча Дзмітрыя на зямлю, і разам з Першым рыцарам уцякае прэч. Царэвіч выхоплівае з-за папругі пістоль, але страляць перадумвае.*

*Праз залу на прасцэніюм ідуць Мнішак, Акінфіеў, Карэла і Чалавек Сапегі.*

**Мнішак** *(да Акінфіева і Карэлы)*. Мы царэвіча шукаем — з ног збіліся, а ён адзін перамогу святкуе...

**Дзмітрый** *(хмура)*. Смуткую, таму і адзін...

**Мнішак** *(прытворна ўздыхнуўшы)*. Зразумелы смутак, бо вікторыя магла быць поўнай, а атрымалася ні два, ні паўтара. Мсціслаўскі, праўда, пакалечаны, але ж жывы, а мог быць і дабіты. Не ў крыўду будзе сказана, не хапіла царэвічу ні адвагі, ні досведу. А разгром мог быць канчатковы і дасканалы. Таму і я смуткую.

**Дзмітрый.** Мы аб розным смуткуем. Я аб людзях перабітых, а ты...

**Мнішак** *(перапыняе)*. А што пра іх смутКаваць? Вораг ён і ёсць вораг.

**Дзмітрый.** Табе яны ворагі, а мне не толькі падданыя, але і браты.

**Мнішак.** Вунь яно як?! Таму ваша мосць і прайграла бітву.

**Акінфіеў.** Ты не справядлівы да царэвіча, ваявода. Дзмітрый Іаанавіч нанёс Мсціслаўскаму пераканаўчае паражэнне.

**Карэла.** І не ты, ваявода, павёў войска ў бой, узброіўшы яго словам праўдзівым, якое дыхала поўнай упэўненасцю ў праваце яго справы, а царэвіч Дзмітрый Іаанавіч.

**Акінфіеў.** І каб не запарожскія і данскія казакі, ты б са сваім ахочым войскам і рыцарамі-баязліўцамі сядзеў бы ў палоне ў Мсціслаўскага.

**Карэла.** А так і сам, дзякаваць Богу, ацалеў і рыцараў убярог.

**Акінфіеў.** З які́мі, між іншым, разлічвацца трэба, каб не бунтавалі.

**Дзмітрый.** З двума я толькі што разлічыўся: з адным добрай зубатычынай, а з другім футрам сабаліным.

**Мнішак.** Палякі бітвай не задаволены і, бадай што, усе вернуцца дамоў. Дарэчы, канцлер Сапега і мяне адклікае ў сойме засядаць. *(Глядзіць на Чалавека Сапегі.)*

**Карэла.** Ці ж палякам быць задаволенымі бітвай у чыстым полі, дзе парабаваць некага і нечага, а марадзёрства над паўшымі запарожцы мае прысеклі.

**Дзмітрый.** Так што засядай у сойме, ваявода. Там не шабляй махаць, а языком мянташыць. А гэта не тое, што дзесяцю тысячамі пяцьдзесят тысяч рассеяць.

**Мнішак.** Менавіта рассеяць. А трэба было грунтоўна раскалашмаціць, Мсціслаўскага паланіць ці дабіць, а астаткі войска яго ў Ноўгарадзе Северскім абламжыць і голадам замарыць. А цяпер, як я з'еду, у вас і дзесяці тысяч не будзе.

**Карэла.** Шчаслівай дарогі і не пераживай. 12 тысяч украінскіх і 4 тысячы данскіх казакоў да нас на падыходзе.

**Акінфіеў.** Так свайму сойму і дакладзі.

**Мнішак.** Гонар маю!

**Акінфіеў.** А мы у гэтым сумняваемся.

*Мнішак і Чалавек Сапегі зыходзяць праз глядзельную залу.*

XI

*За трапезай Барыс Гадуноў, царыца Мар'я і Астролаг. У цара добры настрой. Ён многа п'е, добра закусвае, настойліва частуе Астролага.*

**Гадуноў.** Ты зноў не дапіў, зоркалоў?!

**Астролаг.** Пашкадуй мяне, вялікі гасудар, не пітушчыя мы. І не заві мяне зоркаловам. Іншае гэта. Астролаг я, навука ўсё ўлічваць і разлічваць, прадугадваць і наперад угадваць лёс дзяржаў, цароў, каралёў і народаў іх.

**Гадуноў.** Вось за навуку і вып'ем. Каб былі мы супраць навукі, навошта б нам было цягнуць цябе аж з Ліфляндыі? А чутак, пагалосак у нас і жарсцяў гасподніх, а мо і д'ябальскіх *(хрысціцца)* навалам. І ўцяміць іх без навукі не толькі падданым, але і нам, цару, не заўсёды ўдаецца. Да прыкладу, прыгледзішся да неба, да хмар асабліва, перад заходам сонца, а там вогненныя полчышчы паміж сабою б'юцца. А то бывае з'яўляюцца два ці нават тры месяцы. Што б гэта для царства і цара значыла? Зноў жа птушка і рыба таксама, прыгатаваныя да царскага стала, раптам смак свой сапраўдны трацяць. Як такое разумець?

**Астролаг.** Найчасцей, вялікі гасудар, у ядзе смак знікае ад лішняга да таго вазліяння, калі не толькі месяц, але і сонца краснае можа дваіцца і траіцца.

**Мар'я.** А я не раз пра гэта казала, дык хіба паслухае...

**Гадуноў** *(міралюбна)*. Ідзі пагуляй, царыца, калі вучоны зоркалоў з самім царом аб рэчах для жаночага розуму недаступных гаворку вядзе.

**Мар'я** *(з крыўдаю)*. І так заўсёды, варта толькі праўду сказаць... *(Выходзіць.)*

**Гадуноў** *(апраўдваючыся)*. У нас кажуць: у царыцы волас доўгі, а розум кароткі... І віхуры, якіх раней не было, у нас над царствам праносяцца, ды такія, што зносяць вярхі вежаў і крыжы з цэркваў *(хрысціцца)*, а ў людзей і жывёлы нараджаюцца склезні і пачвары, сабакі паядаюць сабак.

**Астролаг.** Як холадна ды голадна, то ў вас, кажуць, і людзі людзей...

**Гадуноў.** Пра людзей мы ўжо і не гаворым. Галадаюць часта, а прывыкнуць да таго ніяк не могуць. Таму хацелася б зразумець адкуль засухі, залевы і неўраджаі. Але гэта размова на потым. А сёння ты нам пра зорку вогненную. Не адны мы дзівіліся знаменнем божым. Што б гэта значыла і да чаго нам, памазаніку божаму, гатовым быць? Як уніКнуць няшчасця?

**Астролаг.** Каметамі і зоркамі вогненнымі гасподзь Бог папярэджвае сваіх памазанікаў. Гэта значыць і вялікаму гасудару ўсяе Русі трэба ўважліва і штодзённа глядзець за тымі, каму давяраеш ад кухара і пасцельнічага да баярына і ваяводы асабліва. Межы моцна трымаць ад чужаземных гасцей.

**Гадуноў.** Гэта мы і без камет ведаем. А вось як уберагчыся, як устаць?..

*Астролаг разводзіць рукамі. Уваходзяць Басманаў і Шуйскі. За імі Цырымонімайстар. Ён нешта шэпча на вуха Астролагу і выводзіць яго з палаты.*

**Басманаў** *(урачыста, узнёсла)*. Шчаслівы бачыць цябе, вялікі гасудар, у добрым здраві. Паведаміць хачу аб выкананні наказу твайго вешчага.

**Гадуноў** *(абдымаючы Басманава)*. Ведаю! Ведаю, любімец мой! За табой Ноўгарад Северскі, а за намі — Масква! *(Адпускае Басманава з абдымкаў.)* За вычын твой мы надаём табе баярства і дарым маёнткак, а грошай і падарункаў болей, чым першаму ваяводу царства Нікіце Трубяцкому на тое не глядзячы, што ты ваявода другі.

**Басманаў.** Я шчаслівы, як ніхто, вялікі гасудар! (Кланяецца ў пояс.) Не ведаю, як і аддзячыць...

**Гадуноў** *(беручы са стала два недапітыя куфлі)*. Дапі, баярын Пётра, з царскай чашы *(перадае яму куфаль)*, а ты, князь Васілій,— недапітае вялікім вучоным зоркаловам вазьмі, можа, і сам паразумнееш. *(Перадае Шуйскаму куфаль.)*

*Пакуль Басманаў і Шуйскі дапіваюць недапітае, Гадуноў напаўняе пітвом браціну.*

І яшчэ на траіх з браціны. *(Адпівае сам і перадае браціну Басманаву. Затым яна пераходзіць да Шуйскага.)* Ну, а ты, князь Васілій, з чым да нас?

**Шуйскі** *(ад перапалоху давіцца напоем, адкашліваецца)*. З весткаю аб перамозе... таксама, мой гасудар. 21 студзеня Лжэдзмітрый выйшаў з Сеўска і ўдарыў на царскае войска пры Дабрынічах, але, не глядзячы на храбрасць яго незвычайную, пацярпеў поўную паразу дзякуючы мнагатысячнаму нараду войска царскага.

**Гадуноў** *(хапае гляк, напаўняе пітвом куфаль, выпівае яго да донца і б'е пасудзіну аб падлогу)*. Усім ваяводам залатыя! Многа залатых кожнаму! Войску раздаць паўста тысяч! Не, восемдзесят тысяч рублёў. А наогул мы, цар усяе Русі, гатовы раздзяліць з вернымі слугамі нашымі апошнюю сарочку! Дапівай браціну, князь Васілій!

*Шуйскі прыкладваецца да браціны.*

Не, пачакай, Шуйскі! Я ж цябе пасылаў даведацца, чаму ў нас ніякіх вестак ад ваяводы Мсціслаўскага з-пад Ноўгарада Северскага, а ты мне аб паразе самазванца пад Дабрынічамі!

**Шуйскі** *(не заўважаючы, што пітво з брацінь льецца яму на грудзі, на жывот і падлогу)*. Міласцівы гасудар, князь Дзімітрый Шуйскі са са таварышы ў страху перад гневам царскім схаваў весткі аб страшэнным паражэнні ваяводы Мсціслаўскага.

**Гадуноў** *(у шоку)*. Як схаваў? Ты аб якім паражэнні?

**Шуйскі** *(прыціскаючы пустую браціну да грудзей)*. Поўным, гібельным, канчатковым... міласцівы гасудар... Ваявода і першы баярын Фёдар Іванавіч Мсціслаўскі пры смерці на божай пасцелі з шматлікімі ранамі, асабліва галавы. Войска разгромлена, больш за 4 тысячы ратнікаў пала, астатнія пакалечаны ці разбегліся або перакінуліся да царэвіча.

**Гадуноў** *(авалодаўшы сабой)*. Да царэвіча, кажаш?..

**Шуйскі.** І да злодзея Грышкі. Яны цяпер разам...

**Гадуноў** *(налівае сабе напою, п'е доўга, спакойна)*. Князю Мсціслаўскаму найлепшыя лекі і майго доктара! У цэрквах малебны за здраўе! Ваяводу-героя асыпаць царскімі міласцямі! Войску, што засталося, наша царскае дабраславенне і... *(Пахіснуўшыся, хапаецца за твар, скрозь пальцы з роту і носу цячэ кроў. Падае на падлогу.)*

**Басманаў** *(Шуйскаму)*. Царэўну! Царэвіча! Ён паміраe. *(У страху адступае назад.)*

**Шуйскі.** І дзякуй Богу. *(Знікае.)*

*Прыбягае Мар'я, уваходзіць Цырымонімайстар.*

**Мар'я** *(крычыць у істэрыцы)*. Забілі! Зарэзалі!.. Цара зарэзалі!..

*Сцэна перакрываецца суперзаслонай, прыцямняецца. На прасцэніюме амаль сутыкаюцца Шуйскі і Тацішчаў.*

**Тацішчаў.** Пра што задумаўся, князь Васілій, што і дарогі перад сабой не бачыш?

**Шуйскі.** Задумаешся... Іншыя не тое што дарогі, свету Божага ўжо не бачаць...

**Тацішчаў.** На каго намякаеш?

**Шуйскі.** Цар Барыс адышоў у лепшы свет...

**Тацішчаў.** Як?! І з чаго б гэта?

**Шуйскі.** Можа, перапіў, можа, пераеў...

**Тацішчаў.** А не ад яду, атруты?..

**Шуйскі.** Калі ты не падсыпаў, то хто ведае...

**Тацішчаў.** Дурныя жарты. *(Хрысціцца.)* І як цяпер?..

**Шуйскі.** Моцна не ўбівайся, Міхайла. Новыя часы настаюць. Зусім новыя...

**Тацішчаў.** Самазванца бачыш ці каго іншага?

**Шуйскі.** А чаго гэта ты раптам пра самазванца?

**Тацішчаў.** А на Русі спрадвеку, што ні цар, то самазванец...

**Шуйскі.** Пакуль бачу царэвіча Фёдара і Мар'ю. А ты галаварэзаў Шарафедзінава і Малчанава рыхтуй. як належыць. Хутка ўсіх Гадуновых мачыць будзем.

**Тацішчаў.** Будзе каманда — хоць заўтра замочым.

*Разыходзяцца ў розныя бакі не развітаўшыся.*





*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.

### XII

*Каля невялікага намёта, прымасціўшыся да паходнага куфра, нешта піша царэвіч Дзмітрый. Ён у белай кашулі. Побач з намётам на калку вісяць яго баявыя даспехі і зброя: шабля, пістолі, кінжал. З'яўляецца Акінфіеў з двума пістолямі ў руках.*

**Акінфіеў.** Гасудар. Аховай затрыманы мужычонка пры паперах і двух пістолях *(паказвае пістолі)*. Кажа, што ён царэвічу свой. Паперы не аддае, а пістолі ахова забрала. Калі ён сапраўды царэвічу свой, то самі пістолі яму і вернеце. *(Кладзе пістолі на куфар.)*

**Дзмітрый.** Я здагадваюся, хто гэта, і даўно чакаю.

**Акінфіеў.** Добра. *(Зыходзіць.)*

*З'яўляецца Чалавек Сапегі ў сялянскай вопратцы, без барады.*

**Чалавек Сапегі.** Маё шанаванне, гасудар.

**Дзмітрый.** Вітаю добрага чалавека. І даўно чакаю.

**Чалавек Сапегі** *(азірнуўшыся па баках і заглянуўшы ў намет)*. Леў Іванавіч вельмі прасіў даведацца, колькі палякаў засталося ў войску царэвіча і хто іх узначальвае.

**Дзмітрый.** Зусім нямнога, а ўзначальвае іх ваявода Дваржэцкі. Казакоў жа у мяне тысяч дваццаць пяць.

**Чалавек Сапегі.** Я думаю, Леў Іванавіч будзе рады гэтаму. *(Перадае Дзмітрыю некалькі канвертаў.)*

**Дзмітрый** *(распячатаўшы канверт)*. Але гэта рука не Льва Іванавіча?

**Чалавек Сапегі.** Рука мая, але ўсё напісана пад яго дыктоўку. Пасля цара Барыскі, каго яшчэ баяцца. А дапамагаць царэвічу цяпер можа любы яго дабразычлівец.

**Дзмітрый.** Сапраўды.

**Чалавек Сапегі** *(ківае на лісты)*. Я прынёс самае неабходнае і тэрміновае: слова гасудара да народа рускага, аб прыбыцці яго ў Маскву, іншыя граматы і парады, прысяга на вернасць падданых памазанніку Божаму і іншае. А вусна Леў Іванавіч яшчэ раз вельмі раіць быць не злаблівым і не помслівым да сваіх былых непрыяцеляў і нават ворагаў. Прасіў таксама па ўступленні ў Маскву сустрэцца і быць вельмі дабразычлівым да замежных паслоў і людзей гандлёвых. А пасла англіцкага прыняць асабліва ласкава і ад свайго імя ўведаміць англіцкага караля пра сваё вацарэнне і абяцаць пісьмова даць англічанам такія выгоды, якія дараваў яшчэ цар Іван Васільевіч.

**Дзмітрый.** А не рана ўсё гэта?

*Нечакана з'яўляецца ўсхваляваны Акінфіеў.*

**Акінфіеў.** Даруй, гасудар, але да цябе князі Галіцыны — Васілій і Іван, ваяводы Міхайла Салтыкоў, Пётр Басманаў, а таксама баяры маскоўскія, у тым ліку трое братоў Шуйскіх і біты намі пад Ноўгарадам Северскім Фёдар Мсціслаўскі...

**Дзмітрый** *(у поўнай разгубленасці)*. Ваяводы? Баяры?.. Нічога не разумею... Навошта я ім?

**Акінфіеў.** Апраніся ў царскае, гасудар. З пакаяннем яны і жаданнем прыняць прысягу на вернасць табе, а не Фёдару Гадунову. Каго з многіх размовай ашчасліваіш?

**Дзмітрый** *(паспешліва апранаючыся ў царскае і навешваючы на сябе зброю.)* Я проста не ведаю... Але не больш траіх... Давай гэтых, галоўных... Мсціслаўскага, Галіцына Васілія і Басманава.

**Акінфіеў.** Зараз прывяду. *(Выходзіць.)*

**Чалавек Сапегі.** А ваша мосць кажа, што я з паперамі рана... *(Збіраецца пакінуць Дзмітрыя.)*

**Дзмітрый.** Забяры свае пістолі і застанься, падзівіся. Будзе што Льву Іванавічу расказаць і пра маю мосць і пра іх гонар. Як ніяк, а капітуляцыя верных слуг Гадуновых.

*У суправаджэнні Акінфіева і Карэлы да намёта падыходзяць Басманаў, Галіцын і Мсціслаўскі. Дзмітрый моўчкі разглядае ваявод. Паўза зацягваецца.*

**Басманаў** *(стуміўшы наперад)*. Другі ваявода вялікага палка баярын Пётр Басманаў.

**Галіцын** *(ступіўшы наперад)*. Князь Васілій Галіцын, ваявода.

**Мсціслаўскі.** Князь Мсціслаўскі.

**Дзмітрый** *(сурова)*. Усіх ведаю. І чуў пра вас нямала. А з князем Мсціслаўскім пад Ноўгарадам Северскім пабачыліся... Князь Галіцын, чаму прысягаў Гадунову, а прыйшоў да мяне?

**Галіцын.** Я не толькі сам прыйшоў, але і войска прывёў.

**Дзмітрый.** Тым больш.

**Галіцын.** Барыску Гадунова за цара ніколі не прызнаваў. Такі ж самазванец, як і Грышка Атрэп'еў, паглядзець на якога сваіх шпегаў у тваё, гасудар, войска пасылаў. Яны і цябе не раз бачылі. Ці ж нам, Галіцыным, прысягаць цяпер Федзьку Гадунову, калі ў тваёй асобе маем царэвіча прыроджанага?..

**Дзмітрый.** Ваявода Басманаў, пытанне тое ж!

**Басманаў.** Ратныя людзі мае далі клятву Гадунову, але не доўга трымалі яе. Я і сам пераканаўся, што з войскам, у якім пануе хісткасць думак і маральная слабасць, няўпэўненасць, нічога зрабіць нельга. Справы ж Гадуновых канчаткова прайграны смерцю Барыса. Наглядзеўся вось так *(праводзіць рукой па шыі)* — ваяводы больш-менш дзейныя, здольныя надаць войску баявы настрой, не хочуць Фёдара — сына самазванца Барыса Гадунова, супрацiўляюцца агульнаму настрою каля гадуноўскай вярхушкі. Які ж сэнс самому ісці і войска весці на немінучую і бессэнсоўную пагібель. Не жадаючы быць ахвяраю прысягі і цягнуць за сабой тысячы суайчыннікаў, рашыў скончыць справу, злучыцца з князямі-ваяводамі Галіцыным і Міхайлам Салтыковым. Прывялі ратнікаў сваіх да прысягі прыроджанаму спадкаемцу прастола, табе, царэвіч Дзімітрый Іаанавіч. І самі прыйшлі. Хоць карай, хоць мілуй, гасудар...

**Дзмітрый.** Князь Мсціслаўскі?!

**Мсціслаўскі.** Па прычыне калецтва ў апошняй справе адышоў я ад заняткаў ратных. Па даручэнні баяр маскоўскіх прыйшоў да цябе, гасудара ўсяе Русі законнага прасіць прыняць прысягу ваяводаў і ратнікаў іхніх, а войска рускае ўзяць пад сваю дзясніцу, каб пазбегнуць крываправіцця сваіх падданых. Масква чакае цябе, гасудар, і сустрэне хлебам-соллю і радасцю пазбаўлення ад дэспата і ўзурпатара Гадунова.

**Дзмітрый** *(пасля працяглай паўзы)*. Мы з разуменнем аднясемся да вашага мужнага і разумнага ўчынку. Прысягу ў вас і ўсіх іншых ваявод і вайсковых начальнікаў прыме ў саборнай царкве разанскі архіепіскап Ігнацій. Мы прызначылі яго патрыярхам замест Іова. Вам, як і іншым вашым ваяводам, начальнікам ратным і самім ратнікам, усё дарую і як праваслаўны хрысціянін помсціць не стану. Раскажыце пра гэта ў Маскве і па ўсім царстве. Да нашага ўезду ў сталіцу, вярніце ў свае двары і маёнткі, да сваіх сем'яў усіх, хто зведаў ганенні Гадуновых. Мы гатовы памілаваць і ўсіх прыхільнікаў і кляўрэтаў Гадунова.

Раці нашых падданых да Масквы самі вядзіце. Мы ж за войскам дойдзем толькі да Серпухава. А потым вы, прыбраўшы з Масквы магчымых нашых ворагаў, сустрэнеце нас у сталіцы. І няхай народ наш хрысціянскі пераканаецца, што мы, царэвіч Дзмітрый Іаанавіч, Божай міласцю жывы і здаровы.

Сёння мы скончылі вайну з вамі. Заўтра мы разам з вамі будзем будаваць новую рускую дзяржаву. Да сустрэчы! Да сустрэчы ў Маскве... *(Схіляе галаву.)*

*Ваяводы кланяюцца і выходзяць. Дзмітрый, Акінфіеў, Карэла і Чалавек Сапегі доўга глядзяць ім услед. Потым Дзмітрый абдымае Акінфіева, Карэлу і Чалавека Сапегі. На вачах яго слёзы.*

### XIII

*Кароль Жыгімонт праз акно аглядае ваколіцу. Уваходзіць Сапега.*

**Сапега.** Дазвольце, ваша мосць?..

**Жыгімонт** *(не паварочваючыся)*. З чым?

**Сапега.** З дакладам пра вайну.

**Жыгімонт.** Якую яшчэ вайну?

**Сапега.** Якой ужо няма.

**Жыгімонт** *(незадаволена)*. Навошта дакладваць пра тое, чаго няма?

**Сапега.** Усё маскоўскае войска на чале з ваяводамі перайшло на бок царэвіча Дзмітрыя і цалавала яму крыж.

**Жыгімонт** *(рэзка паварочваецца да канцлера)*. Выходзіць, царэвіч атрымаў вікторыю без польскага войска і ваяводы Мнішака?

**Сапега.** Дзякуючы ад'езду Мнішака і ўцёкаў палякаў атрымаў.

**Жыгімонт.** Пасля адклікання табою, канцлер, ваяводы Мнішака з вайны палякі пачалі ўцякаць з яе!

**Сапега.** Рэч Паспалітая абодвух народаў, ваша каралеўская вялікасць, у вайне з Масковіяй, як вашай мосці вядома, на шчасце, не ўдзельнічала... Мог жа ў гэтым выпадку канцлер адклікаць Ежы Мнішака пазасядаць у сойме?..

**Жыгімонт.** А мы не пярэчылі, каб ён пазасядаў. Але май на ўвазе, што вікторыяй гэтага Дзмітрыя мы пакарыстаемся напоўніцу. І адлік пачнём са Смаленска і Северскай зямлі.

**Сапега.** Не раю...

**Жыгімонт.** Мы ўжо даўно зразумелі, калі нам не раіць наш канцлер, гэта азначае, што нам, каралю, дыктуюць так званыя некаранаваныя каралі Вялікага Княства Радзівілы. Дык вось, дарагі канцлер, гэтым разам мы, кароль, зробім назло спадарам Радзівілам!

**Сапега.** Зло народзіць зло... і не толькі ў Масковіі, але і ў Вялікім Княстве. Каралеўству ж гэта можа вылезці бокам, як у нас кажуць. Гэта я вашай вялікасці шчыра ад сябе як канцлер Вялікага Княства, і, вядома ж, ад імя некаранаваных, але ж каралёў...

**Жыгімонт** *(спакойна)*. Дакладвай, нам сёння не хочацца з табой сварыцца. І што там творыцца ў Маскве, я павінен ведаць! *(Садзіцца ў крэсла.)*

**Сапега.** 20 чэрвеня малады цар урачыста ўехаў у сталіцу. За некалькі дзён да гэтага народ, што сабраўся на Лобным месцы, прымусіў Васілія Шуйскага адказаць, ці праўда тое, што ён пахаваў царэвіча Дзмітрыя на Угліччы? Шуйскі адказаў, што царэвіч быў уратаваны ад забойцаў Гадунова, а замест яго быў забіты і пахаваны папоў сын.

**Жыгімонт.** Гэты ж Шуйскі на тым самым Лобным месцы зусім нядаўна сцвярджаў адваротнае і, як ты казаў, патрыярху крыж цалаваў?!

**Сапега** *(разводзіць рукамі)*... Дарэчы, да ўезду царэвіча ў Крэмль, вароты якога аказаліся не толькі без аховы, але і былі расчынены, натоўп уварваўся ў палац цара Фёдара Гадунова, дзе ён быў схоплены разам з маці і сястрою і зацягнуты ў былы баярскі дом Барысаў. Сваякоў іх таксама ўзялі пад варту, маёмасць разрабавалі, дамы разбурылі.

**Жыгімонт.** Які жах! Якое варварства!

**Сапега.** Жах быў, калі нейкія Малчанаў і Шарафедзінаў на чале з князямі Галіцыным і Масальскім царыцу Мар'ю Гадунову задушылі, а малады цар Фёдар адчаянна абараняўся, пакуль аднаму з забойцаў не ўдалося ўсмерціць яго самым агідным спосабам.

**Жыгімонт** *(уражаны пачутым)*. А народ што?..

**Сапега.** Народу аб'явілі, што і царыца Мар'я, і цар Фёдар, як і цар Барыс раней, са страху самі атруціліся ядам.

**Жыгімонт** *(западозрана)*. А ў цябе адкуль такія падрабязныя звесткі пра ўсе гэтыя жахі?

**Сапега.** У мяне дыпламатычныя службы. У кожнай службе свае вочы, выведнікі, кур'еры-фельд'егеры... У сапраўднасці вестак сумнявацца падстаў няма.

**Жыгімонт.** Усё ў цябе падазрона дакладна...

**Сапега.** Лепш сказаць: у канцлера ўсё без сумніву верагодна. І канцлер усведамляе, што і каму дакладвае...

**Жыгімонт** *(міралюбна)*. Добра, добра, Леў. І не крыўдуй... Як царэвіча Дзмітрыя Масква сустрэла?

**Сапега.** Па традыцыі — звонам усіх цэркваў сталіцы пры незлічоным мностве народу на вуліцах, плошчах, дахах дамоў і званіцах цэркваў. Люд укленчваў перад новым, сапраўдным царом і крычаў: «Дай, Госпадзі, табе гасудар здароўя! Ты наша сонейка праведнае!» Дзмітрый адказваў на гэтыя здравіцы: «Дай Бог і вам здароўя. Устаньце і маліцеся за мяне Богу!» Духавенства сустрэла цара на Лобным месцы з крыжамі. Ад'ехаўшы колькі крокаў ад гэтага месца, цар спыніў свайго каня каля царквы Васіля Блажэннага, зняў шапку, глянуў на Крэмль, на вялікае мноства народу і са слязамі пачаў дзякаваць Усявышняму, што спадобіў яго ўбачыць родную Маскву. Народ, бачачы слёзы цара, таксама пачаў галасіць.

**Жыгімонт.** Ты, няйнакш, і ў караля рашыў гаручую слязу вырваць?..

**Сапега.** Мая задача перадаць атмасферу, каралю — думаць, меркаваць, прыкідваць...

**Жыгімонт.** Няйначай і гэты запатрабуе сябе царом велічаць...

**Сапега.** Калі думаць пра мірную дамову, з якой я да Гадунова ездзіў, то, безумоўна, давядзецца велічаць.

**Жыгімонт.** Не ўжо — дудкі, як у вас кажуць.

**Сапега.** Значыць, давядзецца выбіраць паміж вечным мірам і каралеўскімі амбіцыямі...

**Жыгімонт.** Пакінь дзёрзкасці ў размове з каралём!

**Сапега.** Ёсць яшчэ некалькі знакавых навін, ваша каралеўская вялікасць.

**Жыгімонт.** Табе вядома, што мы любім і цэнім знакавыя навіны.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# Дзядзька Янка з мястэчка Крынкі

**Калі пра Ларысу Геніюш мы ведаем шмат, то пра яе мужа Янку (24.02. 1902 – 8.02.1979) – не вельмі. Вывучыўся на доктара ў Празе. Разам з жонкай быў асуджаны Савецкай уладай на 25 гадоў лагераў. Пасля вызвалення сям'я жыла ў Зэльве. Там і памёр у пакутах, маючы цяжкае захворванне.**

Найбольш падрабязна пра мужа ўзгадвае Ларыса Антонаўна ў сваёй кнізе "Споведзь". Мы прасочваем жыццё Янкі ад канца 1934 года і да самой смерці. Сямейныя адносіны былі азмрочаны расставаннямі. Пасля ўзяцца шлюбу (3 лютага 1935 г., мястэчка Воўпа цяперашняга Ваўкавыскага раёна) Янка адразу з'ехаў у Чэхію, дзе заканчваў вучобу ва ўніверсітэце імя караля Карла ў Празе. Дыплом атрымаў у 1936 годзе. Жонка з малым сынам Юркам прыехала да яго ў канцы 1937 года.

Тут неабходна зрабіць невялікае адступленне і паведаміць пра вучобу маладых беларусаў у дружалюбнай для нас ва ўсе часы Чэхіі. Яшчэ падчас Першай сусветнай вайны ў гэты край патрапіла нямала нашых суайчыннікаў – нехта быў у нямецкім палоне, нехта як уцякач ад страшных баёў, якія разгарнуліся ў на тэрыторыі, якая пазней атрымае назву Заходняя Беларусь. Будучы прэзідэнт свабоднай Чэхіі Томаш Масарык, ствараючы сваю краіну, быў у Беларусі, дзе веў прапаганду сярод зняволеных чэшскіх салдат. Ён бачыў наш разораны край, зведаў беларусаў і пераканаўся, што наш народ – сардэчны, добры, гасцінны і заслугоўвае куды лепшай долі.

Абвяшчэнне незалежных Чэхіі і Беларускай Народнай Рэспублікі супалі па часе. Краіны на дыпламатычным узроўні адразу прызналі адна адну як свабодныя і вольныя. Чэхія ў 20-я – 30-я гады расквітнела як дэмакратычная дзяржава. Сюды ў 1923 годзе з Коўна пераязджае ўрад БНР. Тут ужо вучыліся беларускія студэнты. Пры асабістым удзеле Прэзідэнта Масарыка ім былі выдзелены стыпендыі. У 1927 годзе былі створаны Беларускі навуковы кабінет і Беларускі замежны архіў. Эмігранты з Беларусі атрымалі дапамогу і падтрымку. Усяго ў вышэйшых вучэльнях Чэхіі атрымалі дыпломы блізу 300 чалавек, у выключнай большасці з Заходняй Беларусі, якая была часткай даваеннай Польшчы і адкуль можна было ў розных спосабах перабрацца на Захад. Янка Геніюш меў рэкамендацыю Браніслава Тарашкевіча. У Прагу з Вільні патрапіў праз нелегальны "зялёную мяжу". Вышэйшую адукацыю ў Празе атрымалі таксама вядомыя беларускія палітыкі Янка Станкевіч, Мікалай Ільяшэвіч, Тамаш Грыб, Аляксандр Орса, Ігнат Дварчанін і іншыя.

Усяго Янка Геніюш пражыў у Празе 25 гадоў. Як заўважае Ларыса Антонаўна, ён пачаў ужо думаць па-чэшску. Меў невялікую медыцынскую практыку ў скура-венерычным кабінеце доктара Каберца. Што да яго палітычных перакананняў, то ён быў беларускім патрыётам. Значнага ўдзелу ў нацыянальных справах не прымаў. Якім было яго стаўленне да грамадскай актыўнасці жонкі – цяжка сказаць.

Сама Ларыса Антонаўна пра гэта не гаворыць. Яе 11 гадоў пражывання ў Празе моцна знітаваны з дзеячамі нацыянальна-дэмакратычнай эміграцыі. З 1943 года яна была Генеральным сакратаром Управы БНР, упарадкавала архіў, займалася беларускімі эмігрантамі, палітычнымі уцекачамі, ваеннапалоннымі. Была знаёмая з В. Захаркам, К. Езавітавым, В. Русакам, С. Грынкевічам, А. Клімовічам, Я. Найдзюком, артыстамі і пісьменнікамі М. Забэйдам-Суміцкім, М. Сяднёвым, Н. Арсеньевай... "Лёс паслаў мне яшчэ свядомага Беларуса за мужа. Але і лёс мой такі ж цяжкі".

З гэтымі асобамі, безумоўна, быў знаёмы і сп. Янка. Які ўплыў яны зрабілі на яго, як ён ставіўся да гэтых людзей – невядома. Думаецца, што з пашанай. Меў шляхецкі гонар. Уладзімір Калеснік, Янка Брыль і Уладзімір Караткевіч у 1963 годзе наведалі Геніюшаў у Зэльве. Пазней У. Калеснік пакінуў запіс, што Іван Пятровіч "быў задзірысты інтэлігент, прывыклы да асабістага суверэнітэту пад парасонам чэхаславацкай канстытуцыі, дзе пражыў добрыя два дзесяткі гадоў. Любіў ён дражніцца з сураўмоўцамі, пазіраючы на іх зверху". Ларыса Антонаўна прылічала мужа да прыхільнікаў сацыялізму, называла чалавекам "кансерватыўных" поглядаў на грамадства. Канешне, сп. Янка быў выхаваны змагарным духам беларускай палітычнай эміграцыі, не прызнаваў Савецкай Беларусі, чакаў для сваёй краіны лепшай будучыні. Ён, па ўспамінах жонкі, першым даў ёй беларускія кнігі, адкрыў вочы на мінулае роднай зямлі, на крыўды, якія заўсёды цярпеў просты чалавек, чытаў творы Купалы...

З другога боку, ён сваім мазалём і ўласным розумам выйшаў у людзі. Як сельскі чалавек, умеў цаніць дасягнутае, імкнуўся



замацаваць здабыткі. Утрыманне сям'і вымагала выдаткаў. Жыццё не песціла пернікамі, таму лічыў кожную капейчыну, трымаўся працы, хаця і не вельмі высокааплатнай.

Не ведаю, ці была б постаць доктара Янкі Геніюша такой прыкметнай, каб не яго шлюб з Ларысай Міклашэвіч. Яна любіла гэтага чалавека. Будучы глыбока хрысціянкай, ніколі не выказвала яму папроку за страшную памылку, якую зрабіў Іван Пятровіч у 1944 годзе. Ён вырашыў застацца ў Празе, нягледзячы на імклівы наступ Савецкай Арміі. Жонка неадноймчы папярэджвала яго. Магчымасцяў выехаць далей на Захад было многа. Магчыма, Я. Геніюш спадзяваўся, што Чэхія застанецца самастойнай краінай, як да вайны, што Масква адсюль далёка і яе войскі тут не затрымаюцца. Вызваліцелі заўсёды адыходзяць, гэта толькі захопнікі застаюцца альбо іх выганяюць.

Хаця, разважаючы, сп. Янка быў разумным чалавекам. Перажыў акупацыю Чэхіі фашыстамі. Калабарацыяністы прымусілі яго працаваць у бальніцах Баранавіч, Слоніма. Ужо гэта павінна было прымусіць задумацца. Да таго ж, жонка была не апошняй асобай ў кіраўніцтве Ураду БНР на выгнанні, актыўна друкавала вершы ў газеце "Раніца", якую камуністы лічылі гітлераўскай.

Ларыса Антонаўна ведала, што казала мужу. Яе маці была вывезены Саветамі ў Казахстан, дзе і памерла. Бацька загінуў у Гарадзенскай турме. У кнізе "Споведзь" паэтка горка прызналася, што адзіны раз паслухалася мужа – і на табе, якое гора давялося вытрымаць — прайсці праз ГУЛаг.

5 сакавіка 1948 года муж і жонка Геніюшы, былі арыштаваны новай камуністычнай уладай Чэхіі. Летам, у жніўні, іх, грамадзян Чэхіі, перадалі савецкім спецслужбам. У Менску Ларысу Антонаўну дапытваў міністр дзяржбяспекі БССР Цанава. Гэтая істота славілася нялюдскасцю

Не меншыя пакуты выпалі і на лёс сп Янкі. Што ён думаў, слухаючы прысуд у 25 гадоў зняволення? Ён так прывык да еўрапейскай дэмакратыі, што ўявіць сабе не мог сталінскіх лагераў, здзекаў і знявагі. У думках, канечне, тысячу разоў карыў сябе за недальнабачнасць. Прыслухаўся б да перасцярог жонкі, сяброў, знаёмых – і не цярпеў бы такога гвалту. Як ён мог дапусціць, што Саветы прабачаць яму старшынства на сходзе ў 1944 годзе, на якім была прынятая вітальная тэлеграма на адрас Гітлера! Як не прадбачыў подласці з боку беларускіх арганізатараў таго мерапрыемства. Яго, які спазніўся, аўтаматычна запісалі за старшыню імпрэзы, бо ніхто не пакваліўся па гэтую вельмі небяспечную выбарную пасаду, няхай сабе і на нейкую гадзіну-другую!..

Самая страшная бяда была ў тым, што Ларыса і Янка былі разлучаны з сынам Юркам (1935-1985). Яны прайшлі нябачныя выпрабаванні і засталіся жывымі. А вось Юрку камуністычныя ўлады Польшчы прымушалі грацъ па сваіх правілах. Каб выжыць, ён папросту імкнуўся быць з імі такім, як і яны – шмат піў. Ці не горкая доля звяла яго ў магілу праз два гады пасля смерці маці — Ларысы Антонаўны?

Спадар Янка быў добрым лекарам. Гэта і сённяшня могуць пацвердзіць жыхары Зэльвы, дзе ў раённай бальніцы працаваў доктар. Аднак пераслед працягваўся і пасля вяртання з лагераў

У лістах Ларысы Геніюш да Зоські Верас (снежань 1973) зэльвенская пустэльніца па-жаночы шчыра і з болем у сэрцы апавядае пра тыя страхі. Мясцовыя медыцынскія ўлады не прызнаюць яго дыплом доктара, атрыманы ва універсітэце горада Карлавы Вары. Нават абвінавачваюць у крадзяжы! Пры дапамозе Максіма Танка давялося звяртацца ў Міністэрства замежных спраў СССР, каб паспрыялі атрымаць ад пасольства Чэхаславакіі ў Маскве пацверджанне дыплома. Прыйшоў дакумент, які даваў права, маючы гэты дыплом, лячыць на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. "На любой дарозе мы з мужам вымушаны быць моцна насцярожанымі".

Калі Янка захварэў, Ларыса Антонаўна рабіла ўсё, каб хворы не адчуваў нуды і адзіноты. Ён больш ляжаў, чым хадзіў. З Гародні прыязджаў доктар М. Марцінчык, выпісваў лекі. Часта пераступала парог дома Данута Бічэль.

У кастрычніку 1978 года зласлівыя наўмысна пусцілі чутку, што Іван Пятровіч памёр. Пачалі прыходзіць жанчыны ў чорных хустках, прыносілі нават вянкі. "Мілыя, харошыя людзі. Абмануў іх нехта. Як тады, ды некалі... Ціск у мужа 180 на 120".

7-га лютага 1979 года вечарам пачаў захварваць. Яна спрабавала яго адратаваць. Ачуняў, зайшоў у пакой, некалькі мінут пасядзеў за сталом. Калі памёр на руках жонкі а першай гадзіне дня, Ларыса Антонаўна сама яго мыла, апранала. У хату сышлося многа людзей. Было больш за 20 вянкоў. "Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак, нельга аб гэтым... Прынеслі мне па ім 33 рублі 75 капеек пенсіі".

Напярэдадні, 3-га лютага якраз споўнілася 44 гады іх сумеснага жыцця.

Янка Геніюш быў Беларусам не па вызначэнні, а па духу. Ён крочыў не змагарным шляхам, як яго жонка Ларыса, а цiхім поступам інтэлігента-спецыяліста медыцыны. Пэўныя з'явы грамадскага жыцця ўспрымаў з пазіцыі хрысціянскіх каштоўнасцяў. Палітыкай цікавіўся між іншым, як грамадзянін вольнай Чэхіі. Савецкай рэчаіснасці не ведаў і не разглядзеў яе ваўчынага нораву.

*Антон Лабовіч, Гародня.*

## Дзень гімназіі

*Шумна ў клясе,*
*шумна і нудна,*
*Сцены шырокія*
*душаць мяне...*
*Дыхае свежасцяй*
*сад пажаўцелы,*
*У салі*
*"Ад веку мы спалі" пяюць...*
*Нудна сядзець мне*
*ў клясе дзень цэлы...*
*"У клясе"*
*Наталля Арсеньева.*

Няўмольна хутка бяжыць час. 1 лютага адзначылі 87-ю гадавіну з дня заснавання Віленскай Беларускай Гімназіі, пераемніцай якой з'яўляецца наша школа. Таму і дзень гімназіі самае галоўнае свята ў школе, якое кожны год традыцыйна адзначаецца. Самыя ганаровыя госці – былыя вучні гімназіі. У гэтым годзе іх было двое. Галіна Антонаўна Войцік – Луцкевіч вучылася ў гімназіі з 1939 па 1944 год, у класе было больш 20 вучняў. З прыемнасцю ўспомніла настаўнікаў – Алену Сакалову Лекант (настаўніца беларускай мовы), Адама Станкевіча (выкладчык рэлігіі), Барыса Кіта (выкладчык матэматыкі), з апошнім Галіна Антонаўна падтрымоўвае сувязі да гэтага часу, а таксама з нашчадкамі былых вучняў, напрыклад, з Марыляй Пецюкевіч, якая жыве ў Рыме.

Вакальныя ансамблі "Лянок" і "Журавінка" адкрылі свята, у іх выкананні прагучала песня "Спадчына" на словы Янкі Купалы, Насця Хадункіна цудоўна прачытала верш Н. Арсенневай "У клясе", Вольга Вільчынскайце праспявала песню, якую спявала яшчэ яе бабуля, зноў выступіў "Лянок", спявалі песню "Пагоня" на словы Максіма Багдановіча. На канцэрце выконваліся сольныя нумары на гітары, флейце, скрыпцы. А рыхтавала вучняў настаўніца музыкі В. Кавальчук. На свяце выступіла дырэктар школы сп. Галіна Сівалава, прэзідэнт згуртавання беларусаў Літвы Лявон Мурашка, былы вучань гімназіі Яраслаў Станкевіч, загадчыца кафедры беларусістыкі ВДУ Лілея Плыгаўка.

Шаноўнымі гасцямі свята былі Т. Скорая і Ю. Скоры, яны ўручылі прэмію імя Ю. Зімніцкага лепшым вучням 12-га класа. У гэтым годзе яе атрымала Дар'я Ваўчок і другую прэмію ўручылі на падтрымку кактусаў, падараных школе Ю. Зімніцкім.

У гэты ж дзень у школе прайшлі ўрокі гісторыі "Гісторыя Віленскай беларускай гімназіі". Дзейнічала выстава кніг Г. Жук – Грышкевіч, Г. Войцік – Луцкевіч "Партрэты беларусаў віленчукаў".

Вучні нашай школы вывучаюць гісторыю беларусаў пачатку XX стагоддзя і пішуць новую. Кожны год збіраецца летапіс школы.

*Леакадзія Мілаш.*



*Да дня роднай мовы*

## СВЯТЫ, СВЯТЫ, ДЛЯ НАС ФРАНУСЬ...

Гэта радок з майго вершыка, які надрукаваны ў кніжцы Ул. Содаля "Святы той куточак фальварак Свіраны", пабачыўшы свет у 2005 г. якраз у 165-я ўгодкі з дня народзінаў Францішка Бенядыкта Багушэвіча, светача праўды, патрыярха духоўнага Адраджэння кожнага беларуса.

Усё, што створана Богам, - для нас вятое. Гэта разумеў і паэт. Ён гаварыў: "Мова наша святая, бо яна нам ад Бога даная..."

У часы Багушэвіча, ды і цяпер на нашу мову замахнуліся нядобразычлівіцы, манкурты і шавіністы... Па-гэтаму і зараз яго крылатыя словы: "Не забывайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" – актуальныя, як ніколі.

***"Зямля ў нас – святая,<br>Святым зрабіўся і Франуць.<br>Святы наш край,<br>святая мова...<br>Святая наша Беларусь".***

Гэтую святасць патрэбна бараніць нам, увасабляючы святым і вобраз Фр. Багушэвыча, які выхоўваўся ў набожнай сям'і ды заставаўся сапраўдным хрысціянінам на працягу ўсяго свайго жыцця.

Дарэчы, паэтава матуля Канстанцыя была пляменніцай уніяцкага біскупа Андрыяна Галаўні, які ў першай трэці XIX ст. кіраваў Літоўскай уніяцай епархіяй, меў тытул аршанскага епіскапа.

Праўда, хрышчаны ён быў ужо католікам, аб чым у кнізе хросных метрык Рукойнскага касцёла запісана: "Года Божага тысяча васемсот саракавога, месяца сакавіка дзевятага дня ў Рукойнскім парафіяльным рымска-каталіцкім касцёле ахрышчана вадой і святым алеем дзіця па імені Францішак Бенядзікт". Немаўлятку імя давалі па святцах, і на гэты час выпалі імёны такія, то атрымалася двайное імя, бо Багушэвічы былі каталікамі.

Жывучы ў Кушлянах, з 1846 г., сям'я Багушэвічаў кожную нядзелю накіроўвалася на набажэнства ў Жупранскі касцёл. Напросткі сюды было кіламетраў тры-чатыры, у ціхае, добрае надвор'е галасы званоў Жупранскага касцёла чутны былі досыць далёка. Калі тут будавалі касцёл (цагляны), то і Фр. Багушэвіч спрыяў яго завяршэнню, ахвяруючы свае грошы, а таксама ездзіў па фэстах ды збіраў грошы на будоўлю...

У самім Кушлянах сям'я Багушэвічаў разам з акалічнымі сялянамі, суседзямі за адну ноч пабудавалі драўляную на чатырох круглячках пад гонтавай стрэшкай Крыж-капліцу.

Прытулілася яна пад экзатычнай лістоўніцай на скрыжаванні ялова-каштанавай прысады з колішнім гмінным трактам.

Пабудова гэтай капліцкі на сваёй сядзібе - гэта быў своеасаблівы пратэст супраць мураўёўскай палітыкі наваручаць беларусаў – католікаў у праваслаўе і доказ вялікай адвагі ў той бяспраўны царскі час.

Змаганне Фр. Багушэвіча са зброяй у руках пад час паўстання 1863 г. за незалежнасць краіны, аддальнасць справе народа, яго справядлівасць, небожнасць і глыбокая рэлігійнасць робяць яго сімвалам святасці.

Нездарма ў Жупранскім парафіяльным касцёле з 1901 г. вісела мармуровая дошка з Багушэвічавым партрэтам, аўтар якой мастак з Вільні Ян Арасімовіч.

"Дошка выканана з любасцю, з пэўным мастацкім і эстэтычным густам, з павагаю да паэтавай асобы. Яна мае зверху закруглена спічатаю форму, нагадвае акно гатычных пабудоў. У цэнтры яе, у заглыбленым авале, - паэтава выява, яго каляровы партрэт на медзі немаляваў мастак Ян Яроцкі. Па абодвух баках над партрэтам два схіленых у жальбе, у вечным смутку апалыя крыльцы анёлаў..."

Даўней паэтаў партрэт людзі прымалі за Лік Святога і крыжы да яго клалі, свечкі ставілі ды цалавалі.

Сённяшнія жупранскія святары ганарацца тым, што ў іхнім касцёле ўшанавана памяць такога слаўнага сына нашага народу, як Багушэвіч. Праўда, быў выпадак, калі нейкі наўмыснік выдзер песняроў партрэт з касцельнай мармуровай дошкі. У 1990 г. Багушэвічаў партрэт быў зноў вернуты ў гэты касцёл.

Дарэчы, першапачаткова памятны знак меркавалася ў 1901 г. усталяваць у адным з віленскіх касцёлаў, як гэта зраблена Адаму Міцкевічу, але нешта з гэтай задумаю не выйшла.

Нам, беларусам, Літвы хацелася б, каб адпаведная мемарыяльная дошка была ўсталявана Фр. Багушэвічу у Рукойскім касцёле, дзе паэта хрысцілі, ці ў Вільні у касцёле св. Баўтрамея, дзе набажэнствы ідуць на беларускай мове. Зроблены захады ў гэтым кірунку, але покуль што безвынікова. Святары гэтых касцёлаў а. а. Ян Мацкевіч і Ян Шуткевіч супраць нашых прапаноў. Яны не хочуць ушанаваць імя не толькі Фр. Багушэвіча, але беларускіх святароў як Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага ды інш.

Што ж, хай гэта будзе на іх сумленні. А для нас, беларусаў, імя Францішка – СВЯТОЕ.

Будзем маліцца за яго. Ды дапаможа нам Бог!

***Юры Гіль.***

# Ліда беларуская










Прыгожа абнаўляюцца беларускамоўныя пано і шыльды ў Лідзе. Рэдкае беларускае слова "Агмень" узяла за назву адна з дачэрніх фірмаў завода "Оптык". Крама "Журавінка" кропку над "і" ў сваёй назве зрабіла прыгожай ягадкай. Лідскі метадычны цэнтр народнай творчасці замовіў сабе новую беларускамоўную шыльду ў надзвычай яркім і густоўным выкананні.

***Наш кар.***

## РАДА САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПРЫНЯЛА Ў СКЛАД АБ'ЯДНАННЯ 13 ЧЛЕНАЎ І ВЫКЛЮЧЫЛА 35

14 лютага на пасяджэнні ў Менску рада Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) прыняла ў склад аб'яднання 13 новых членаў і выключыла 35.

У склад аб'яднання былі прыняты паэты і барды, празаікі і літаратуразнаўцы — вучоныя і выкладчыкі, архітэктары і фотамастак, фізікі і прадпрымальнікі, якія жывуць у Менску, Мазыры (Гомельская вобласць), Фаніпалі (Мінская вобласць), Гародні, Бярэсці і Гомелі.

Старшыня СБП Алесь Пашкевіч паведаміў, што члены нядаўна створанага Саюза пісьменнікаў Беларусі (СПБ) Анатоль Аўруцін і Міхаіл Пазднякоў прынеслі ў сакратарыят СБП заявы аб выхадзе з аб'яднання ад 35 чалавек, якія ўступілі ў СПБ.

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч прапанаваў выключыць з СБП тых, хто не жадае ўваходзіць у творчае аб'яднанне. "Праўда за нашым саюзам, бо ў яго ўваходзілі Янка Купала і Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў, дзесяткі іншых таленавітых людзей, якія складаюць гонар і славу беларускай літаратуры", — падкрэсліў Н.Гілевіч.

На думку паэта і публіцыста Генадзя Бураўкіна, члены СБП, якія нядаўна выйшлі з аб'яднання, здрадзілі яго ідэі. "Мы прымалі іх у свой саюз, паколькі лічылі дастойнымі яго. Яны добраахвотна прыйшлі ў аб'яднанне і таксама добраахвотна яго пакідаюць. Калі ж іх прымусілі выйсці з нашага саюза, то яны павінны былі прыйсці да нас і сказаць аб гэтым. Аднак яны так не зрабілі. Затое абвінавачваюць нас у падрыхтоўцы змовы супраць дзяржавы і заяўляюць аб сваёй падтрымцы ўладаў. Але ўсюды і заўсёды пісьменнікі былі ў апазіцыі да любой улады", — падкрэсліў Г.Бураўкін. Пры гэтым ён зазначыў, што дакументы, што распаўсюджваюцца кіраўніцтвам СПБ, надрукаваны на рускай і англійскай, але не на беларускай мове.

Члены рады аднагалосна выключылі з СБП 35 яго членаў. Акрамя таго, вырашана разглядзець магчымасць членства ў аб'яднанні шэрагу пісьменнікаў, якія, падобна празаіку Уладзіміру Ліпскаму, жадаюць быць членамі абодвух саюзаў. Зараз у СБП уваходзяць каля 550 чалавек.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

## АБ'ЯДНАННЕ "БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР" ВЫДАЛА ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ КЛАСІКА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ У.КАРАТКЕВІЧА

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Беларускі кнігазбор" (Мінск) выпусціла выбраныя творы класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча (26.11.1930—25.07.1984).

Як паведаміў БелаПАН дырэктар аб'яднання Генадзь Вінярскі, у 34-ю кнігу "залатой серыі" выдавецтва, прысвечаную 75-годдзю У.Караткевіча, увайшлі яго апавяданні "Блакіт і золата дня", "Паром на бурнай рацэ", навэла "Кніганошы", "Сіняя-сіняя" і "Дрэва вечнасці", аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха", "Сівая легенда", "Ладдзя роспачы" і "Чазенія", а таксама фрагменты рамана "Каласы пад сярпом тваім". Апрача таго, у кнігу ўключаны паэтычныя творы У.Караткевіча, яго нарысы, публіцыстыка, эсэ, а таксама эпісталярная спадчына літаратара, у прыватнасці лісты народным паэтам Беларусі Якубу Коласу і Максіму Танку, народным пісьменнікам Беларусі Янку Брылю і Васілю Быкаву, а таксама паэтэсе Ларысе Геніюш і яе мужу Янку Геніюшу.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***





# СЦЯГ ТЭЛЕБАЧАННЯ

У далёкім ўжо 1978 годзе на пасаду старшыні Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні быў прызначаны паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін. Не ведаю ўсіх перапетыяў гэтага прызначэння, але пераканаsucceeded, без згоды і зычлівай ухвалы колішняга першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава не абышлося, балазе яны былі добра знаёмыя, пра што сведчыць шматлікія фотаздымкі з розных цэкоўскіх нарадаў, на якіх постаць Генадзя Бураўкіна часта побач з першым сакратаром ЦК КПБ Машэравым.

Аднак я не збіраюся высвятляць усе перапетыі апякунства Пятром Машэравым Генадзя Бураўкіна – хай гэта ён пры нагодзе зробіць сам. Я ж толькі згадаю, як з прыходам Генадзя Бураўкіна на пасаду старшыні Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні паўстала праграма "Роднае Слова", балазе ў мяне захаваліся розныя службовыя паперы, падпісаныя Генадзем Бураўкіным, якія распавядаюць, як практычна ўпершыню на Беларускім тэлебачанні паўставала першая тэлевізійная праграма "Роднае Слова".

Дзесьці напачатку 1979 года вярнуўшыся з камітэцкай планёркі, наш колішні галоўны рэдактар, ім быў Радаслаў Александровіч, сын вядомага паэта Андрэя Александровіча, задумены прайшоўся між сталамі з сваімі падначаленымі і задумена, пачухаўшы перад тым лысаватую патыліцу, сказаў:

- Нашай рэдакцыі даручана распачаць праграму "Роднае Слова". І як мага хутчэй! Хто б з вас узяўся? – і вокам уставіўся на мяне.

Я ўсё зразумеў. Практыкі падрыхтоўкі тэлевізійнай мовазнаўчай праграмы ніхто з нас не меў. Не меў яе і я. Неяк боязна было брацца за невядомае, ніколі дагэтуль не апрабаванае: "Як мовазнаўчую праграму спалучыць з спецыфікай тэлевізіі?"

Я хадзіў і ламаў галаву: як гэта зрабіць, каб гэтая праграма была і глядзельная, і карысная, і мовазнаўчая, і цікавая. Найперш вырашыў, што гэта павінен быць тэлечасопіс з розных паасобных жанравых сюжэтаў. Першы сюжэт, мне думалася, павінен быць абавязкова нарысавы. Затым мовазнаўчыя навінкі, пошта "Роднага Слова", адказы на пытанні. І на канцоўку штось мовазнаўча - элегічнае. Склаў адпаведны перспектыўны план. З гэтым планам пазнаёміў і новага старшыню. Копія плану і ўстаноўчая запіска да яго захаваліся і сёння яны ўжо вартыя абнародвання, бо ўжо сталіся гісторыяй.

## ПРЫКЛАДНАЯ ТЭМАТЫКА ЗМЕСТУ НОВЫХ ПЕРАДАЧ "РОДНАЕ СЛОВА"

**Красавік.**

Устаноўчая перадача.

На яе прыйдуць вядомыя мовазнаўцы і майстры слова. Прыйдуць з самым запаветнымі і дарагім. Раскажуць пра значэнне слова ў жыцці чалавека. Раскажуць, што іх некалі скіравала да слова, да яго таямніц. На гэтай жа сустрэчы будуць вызначаны задачы новай перадачы. Кожны з удзельнікаў выкажа свае думкі і пажаданні новаму цыклу перадач. Іх гаворка будзе змацавана сюжэтам пра касманаўтаў, пра іх высокапатрыятычныя парыванні, пра сувязь з сваёй зямлёй, будуць закрануты ў перадачы і вынікі Усесаюзнага перапісу насельніцтва.

**Май.**

Мяркуецца перадачу дастасаваць да Дня Перамогі і Дня Друку і расказаць у ёй, як жыло і змагалася беларускае слова ў гады Вялікай Айчыннай вайны: у савецкім тыле, на фронце, у беларускіх лясах, апавяданні пра партызанскія школы.

Ф. Янкоўскі раскажа пра свае моўныя зборы ў партызанскіх паходах, Ул. Я. Рамановіч пра пастаноўку "Палешукоў" у Томску і г.д.

**Чэрвень.**

Амаль увесь нумар мяркуецца прысвяціць працы дыялектолагаў, іх летнім экспедыцыям; а таксама сюжэт да 115 гадавіны з дня нараджэння беларускага этнографа, мовазнаўцы і фалькларыста Сержпутоўскага.

**Ліпень.**

1.Кансультацыі па беларускай мове для тых, хто паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

2. Сустрэча з рэдактарам другога тома "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", з нагоды выхаду другога тома.

**Жнівень.**

1.Сустрэча з супрацоўнікамі выд. "Навука і тэхніка" (да 55-й гадавіны ўтварэння выдавецтва). Іх расказ пра тыя мовазнаўчыя навінкі, якія рыхтуе выдавецтва.

а) 14 жніўня 1517 года – пачатак беларускага кнігадрукавання. Нядаўна выйшаў з друку "Слоўнік мовы Ф. Скарыны". Гэтай нагодзе прысвячаецца адзін з сюжэтаў.

2. Сюжэт да 350-годдзя з дня нараджэння Сымона Полацкага.

3. Пытайцеся – адказваем.

**Верасень.**

Выпуск прысвячаецца новаму навучальнаму году. У ім мяркуецца расказаць пра гісторыю беларускага буквара, адбудзецца сустрэча з адным аўтарам школьных падручнікаў беларускай мовы, а з гэтай нагоды можа ўзнікнуць гаворка і пра эфектыўнасць падручніка ў школе.

Да 120-годдзя з дня нараджэння – сюжэт пра беларускага мовазнаўцу Браніслава – Эпімаха-Шыпілу.

Як звычайна, заканчваецца выпуск рубрыкай "Пытаецеся – адказваем"

**Кастрычнік.**

1.У нас у гасцях часопіс "Беларуская лінгвістыка".

2. Расказ пра ўклад у развіццё мовы М. Лужаніна да яго 70-годдзя і сустрэча з ім самім.

3. Пытаецеся – адказваем.

(Пытанні культуры мовы, паходжанне слоў і фразем і гэтак далей).

Тут жа будзе коратка расказана пра першы том "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы".

**Лістапад.**

1.Нумар прысвячаецца развіццю беларускай мовы за гады савецкай улады.

2. Расповед М. Лынькова пра шляхі пазнання мовы (да 80-годдзя пісьменніка).

3. У нас у гасцях члены тэрміналагічнай камісіі БелСЭ.

4. Пытаецеся – адказваем.

**Снежань.**

Снежаньскі нумар у нейкім сэнсе будзе навагодні, святочны. У ім прагучаць вершы беларускіх паэтаў пра мову і Новы год, зычэнні народу, гісторыя календароў на беларускай мове. Закончыць перадачу мяркуем новай песняй І. Лучанка пра мову, якую ён напіша спецыяльна для навагодняга выпуску.

Апрача гэтага, з верасня месяца абавязкова трэба распачаць другі выпуск "Роднага слова", дзесяціхвілінны і прысвячацца ён будзе спецыяльным пытанням культуры мовы.

Так, напрыклад, у верасні месяцы можна даць у "Маленькім выпуску" слова пісьменніку Васілю Вітку на тэму "Дзеці і мова", у кастрычніку М. Бірылу "Ты і тваё Імя", у лістападзе "Узаемаплывы рускай і беларускай моў. Шляхі іх развіцця".

Тэматыка такіх перадач самая разнастайная. Тут і гісторыя беларускай фразеалогіі (Ф.Янкоўскі) і "Сучасныя геаграфічныя назвы і іх паходжанне", і гаворка пра культуру мовы нашых газет, радыё. У спецыяльных дзесяці мінутках можна павесці гаворку пра мову асобных пісьменнікаў, тыпу "Новаўтварэнні ў творчасці Р. Барадуліна", "Беларускія словы ў творах Чарнышэўскага" і г. д.

Просім зацвердзіць наш прыкладны тэматычны план перадач да канца года і даць распараджэнне адпаведным службам аб забяспячэнні новай перадачы ўсім неабходным (кінастужкай, зручным эфірным часам, відэазапісам, замацаваннем за перадачай кваліфікаваных мастакоў).

Прыкладны тэматычны план, складзены студыяй, будзе абмеркаваны з вядучымі мовазнаўцамі рэспублікі. Іх парады, пажаданні стануць асновай для складання сталага тэматычнага плана на сёлетні і наступныя гады.

Ст. рэдактар – Ул. Содаль
Галоўны рэдактар – Р. Александровіч

---

Захаваліся і парады, рэзалюцыі Генадзя Бураўкіна на гэты прыкладны план новай тэлевізійнай праграмы. У адной з іх за 13 лютага 1979 года ён прынамсі ўхваляў прапанаваны план "Роднага Слова"

*"В. Д. Чаніну,*
*П. С. Каваленку,*
*Р. А. Александровічу*

*У прынцыпе падтрымліваю вызначаны кірунак тэлечасопіса "Роднае слова" і тэматычны план на гэты год. Складзіце, калі ласка, грамадскі савет (ці рэдкалегію) часопіса, на ім грунтоўна абмяркуйце план і пасля прадстаўце яго - да 20.III.79 г. – мне з удакладненямі і папраўкамі.*

*13.II.79 г. Г. Бураўкін."*

В. Д. Чаніну,
П. С. Каваленку,
Р. А. Александровічу

У прынцыпе падтрымліваю вызначаны кірунак тэлечасопіса. Роднае слова і тэматычны план на 79 год. Складзіце, калі ласка, грамадскі савет (ці рэдкалегію) часопіса, на ім грунтоўна абмяркуйце план і пасля прадстаўце яго – да 20.III.79 г. – мне з удакладненнямі і папраўкамі.
13.II.79 г. Г. Бураўкін

Там жа яшчэ адна прапанова:

*"Трэба звязацца для кансультацый з інстытутам мовазнаўства АН БССР, адпаведнымі кафедрамі БДУ і педінстытута і Гомельскім універсітэтам. Набраць як мага болей парад і прапаноў."*
*Г. Бураўкін.*
*13.II.1979 г."*

Трэба звязацца для кансультацый з інстытутам мовазнаўства АН БССР, адпаведнымі кафедрамі БДУ і педінстытута і Гомельскім універсітэтам. Набраць як мага болей парад і прапаноў!
Г. Бураўкін
13.II.1979.

От з такой заклапочанасцю паўставала на тэлевізійным экране мовазнаўчая праграма "Роднае Слова". Яна была патрэбная не толькі гледачам але і самой тэлевізіі. Праграма "Роднае Слова" сталася яе сцягам не магло ж быць такога, каб тэлевізія, узяўшы на сябе клопат папулізацыі роднага слова, сама не карысталася гэтым словам. Спакваля з "Родным Словам" пашыраўся абсяг і іншых беларускамоўных праграм.

Неўпрыкмет Беларуская тэлевізія становіцца беларускамоўнай. Паралельна з "Родным Словам" паўстае і праграма "Гаворым па-беларуску".

Больш за дваццаць гадоў тэлевізійная праграма "Роднае Слова" сеяла з блакітнага экрана ў народзе добрае, вечнае, фармавала моўную аўру, рухала беларускі этнас, да прыняцця закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Не гэтак даўно Беларускае тэлебачанне адзначала сваё першае паўстагоддзе. Але ніхто з сучасных тэлевізійных мэтраў пад час юбілейных урачыстасцяў нават словам не згадаў ні асветніцка баявую праграму "Роднае Слова", ні яе заснавальніка, ні апякуна Генадзя Бураўкіна.

***Уладзімір Содаль.***





Яраслаў Куркоўскі

# МАЦЕЙ ДОГЕЛЬ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Вільня і Шчучын - гэта з пэўнасцю не адзіныя піярскія асяродкі ў Літве, дзе працаваў Догель пасля пасвячэння ў духоўны сан (1732). Бібліятэкар Залускіх, Ян Даніэль Яноцкі, добра ведаючы Догеля, так пісаў пра гэта ў 1755 г.: "...з незвычайнай зручнасцю і вялікім прызнаннем вучыў у розных калегіюмах рыторыцы і паэзіі, касцельнай і дзяржаўнай гісторыі, а таксама філасофіі і тэалогіі".

У 1743 г. (перад 9.VI) памёр Юзаф Сцыпіён дэль Кампа, даручыўшы ў тастаманце Мацею Догелю выключную апеку над адукацыяй свайго адзінага сына Ігнацыя (пасля 1728-1791), які, нягледзячы на малады ўзрост, быў лідскім старастам. Гэта доказ асаблівага даверу магната маладому піяру, чаму спрыяла пахвальная ацэнка ягонай настаўніцкай працы. Яшчэ раней Догель займаўся маёмаснымі справамі Юзафа Сцыпіёна, меў у гэтай сферы шырокія паўнамоцтвы.

У новай сітуацыі Догель пакінуў разам з выхаванцам Шчучын і яго мачыху Тарэсу Барбару з дому Радзівілаў Сцыпіён (яго маці Вераніка з дому Фірлеяў памерла ў 1739 г.). У 1744 г. сустракаем абодвух нашых герояў летам у Варшаве ў таварыстве аднаго з багатых апекуноў Ігнацыя Сцыпіёна - ваяводы Яна Тарлы і яго трэцяй жонкі Эльжбеты з дому Браніцкіх. У хуткім часе было прынята рашэнне выехаць з краю, якое так разгнявіла ваяводу, што той выслаў вядомы гнеўны ліст да генерала ордэну піяраў, у якім абвінавачваў Догеля ў выкраданні падапечнага і злоўжыванні грашыма. Выезд адбыўся, напэўна, у студзені 1745 г. 14 студзеня гэтага года Догель і Сцыпіён пакінулі Сыракомлю (каля Лукава), маёнтак сястры Ігнацыя Ганны і яе мужа Канстанціна Шаняўскага. Пры нагодзе выезду ўзнік спіс "падручнай" бібліятэкі, з прыблізна 100 назваў, большасць налічвалі гістарычныя кнігі (як напр. папулярны слоўнік французскага энцыклапедыста Луіса Марэра), не бракавала таксама геаграфічных, рэлігійных твораў, падручнікаў для вывучэння нямецкай і французскай моваў, твораў старажытных класікаў і навуковых даследаванняў з галіны права, як напр. праца Давіда Браўна *"Аб праве кіравання ў Каралеўстве Польскім"* *("De iutium regnandi in Regno Poloniae")*. Яна ўключае апісанне ладу Рэчы Паспалітай, поўная крытычных заўваг. Вучань і настаўнік вучыліся ў Ляйпцыгу, а потым у Парыжы (быць можа наведалі таксама Рым і, напэўна, Страсбург, а на пачатку падарожжа Дрэздан). Догель пашыраў свае веды ў галіне філасофіі, матэматыкі, права (прыроды і народаў) і гісторыі, Сцыпіён дасканаліўся ў старажытных і сучасных мовах, вучыў права і "красамоўства". Не менш важнымі былі адносіны з выдатнымі прадстаўнікамі навуковага свету: у Ляйпцыгу з гісторыкам Ёганам Якубам Масковам (1689-1761), юрыстам, выдаўцом Фрыдрыхам Ота Мэнкам (1689-1761), юрыстам Карлам Ота Рэхенбергам (1689-1751), у Страсбургу з гісторыкам і дыпламатам Ёганам Даніэлем Шопфлінам (1694-1755), у Парыжы са славутым гісторыкам П'ерам Нікаласам Ленглетам дэ Фрэсноў (1674-1755). Менавіта ў Парыжы Догель павінен быў пазнаёміцца з каштоўнымі рукапісамі ягоных працаў, быў абавязаны яму за "вольны доступ да самых вялікіх паноў". Сярод іх асаблівую ролю адыграў Рэнэ-Луі дэ Воер дэ Паўльмы маркіз д'Аргансон (1694-1757), тагачасны міністр замежных спраў Францыі (у 1744-1747 гадах). Дадамо, што менавіта ў той перыяд маркіз працаваў над дамовай паміж Людвікам XV і Аўгустам III, які былі канчаткова заключаны ў 1746 г. Вынікам гэтых дзеянняў французскай дыпламатыі ў адносінах да Саксоніі быў шлюб дафіна Людвіка (сына Людвіка XV і Марыі Ляшчынскай) з польскай каралеўнай Марыяй Юзэфай, дачкой Аўгуста III (1747). Адпаведна Яноцкаму - Догель і малады лідскі староста вельмі часта запрашаліся міністрам "да стала". Несумненна, знаёмства з шэфам дыпламатыі адной з галоўных еўрапейскіх дзяржаваў, паўплывала ў значнай меры на далейшае жыццё піяра.

Задума распрацоўкі Дыпламатычнага кодэкса, напэўна, з'явілася ў Парыжы. Гэта тут у надзвычайна вялікіх бібліятэках павінен быў Догель пазнаёміцца з еўрапейскімі манументальнымі выданнямі з галіны міжнароднага права, а асабліва са зборамі Томаса Рымэра *"Трактаты, канвенцыі, лісты і ўсякага роду публічныя акты"* *("Foedera, conventiones, literae et cujusque generis acta publica")* (20 т. Лондан 1704-1735), Яна Дзюмонта, *"Універсальны дыпламатычны корпус права народаў"* *("Corps universel diplomatique du droit des gens")* (8 т. Амстэрдам 1726-1731), Ёгана Хрыстофа Люніга *"Нямецкія архівы рэйха"* *("Deutsces Reichsarchiv")* (24 т. Лейпцыг 1710-1722). За ўзор Догель выбраў сабе публікацыю Рымэра, якая ўключае не толькі акты міжнароднага права ў вузкім значэнні гэтага слова, але цэлы шэраг іншых тэкстаў, якія прызнаваліся ў той час як "публічныя" дакументы (напр. лісты уладароў). На англійскі ўзор хацеў адабраць і апублікаваць толькі найважнейшыя дакументы. Ужо за мяжой пачаў збіраць матэрыялы, руплівa шукаючы ў архівах і бібліятэках. У выдадзенай брашуры, якую далучыў потым да першага тому публікацый і перадрукаванай ў часопісе *"Літаратурныя акты Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага"* *("Acta Litteraria Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae")* (т. 1, 1755, сшытак 4, с.287-297; з'явілася ў чэрвені 1757 г.) піяр абаснаваў патрэбу выдання польскага Дыпламатычнага кодэкса. Перш за ўсё спасылаўся на факт існавання падобных нямецкіх, французскіх, англійскіх і італьянскіх працаў. Звяртаў увагу на навучальную ролю такой публікацыі, а таксама прыдатнасць для вучоных, якія, дзякуючы ёй, змогуць больш паспяхова палемізаваць з няслушнымі, у адносінах да Польшчы, дакорамі і патрабаваннямі. Гэта выразны ўхіл у кірунку палітыкаў, якія праводзілі дыпламатычную службу Рэчы Паспалітай. Падкрэсліваў таксама значэнне крыніцаў у працы гісторыка, спасылаўся на прыклады, узятыя з творчасці значных аўтарытэтаў: Лівія і Крамэра. На яго думку напр. Марцін Крамэр (1512-1589), выдатны польскі гісторык XVI ст., аўтар вельмі папулярнага ў Еўропе апісання Польшчы і апрацавання яе гісторыі, інакш пісаў бы "пра рускую гісторыю", калі б выкарыстаў старыя рускія дакументы. Несумненна, галоўным матывам усёй справы былі сучасныя патрэбы краю, які перажываў перыяд упадку міжнароднага значэння. Можна сабе ўявіць, якую вялікую ролю магло адыграць у гэты гістарычны момант распаўсюджванне поўных тэкстаў міждзяржаўных трактатаў, якія ўключалі абавязацельствы і гарантыі іншых дзяржаваў, падкрэслівалі самастойнасць і суверэнітэт Рэчы Паспалітай, вызначалі месцы праходжання яе межаў і г.д.

Догель вяртаецца ў край са шматлікімі матэрыяламі каля 1747 г. Сам Ігнацы Сцыпіён дэль Кампа, напэўна, быў у краі ў палове ліпеня 1746 г., бо ўдзельнічаў у працэсе перад Каронным Трыбуналам для Малапольшчы, які знаходзіўся ў Любліне. Спачатку Догель заставаўся пры двары свайго вучня ў якасці тэолага, архіварыюса ("склаў яму хатні архіў") і адміністратара маёнтка. Аднак, у хуткім часе, па загаду кіраўнікоў ордэну, расстаўся з вучнем і прыняў абавязкі асістэнта правінцыі, а таксама рэктара Віленскага калегіюма. Разам з тым, не адмаўляўся ад распачатай ужо працы. Праект *Дыпламатычнага кодэкса* прадставіў каралю Аўгусту III. Атрымаўшы падтрымку, у 1748 г. выехаў (са статусам пасла Рэчы Паспалітай і Сойму) з рэкамендацыйнымі лістамі ад міністраў у Францыю, Галандыю і Германію. Пасля вяртання працягваў працу ў архівах Рэчы Паспалітай, а перш за ўсё праводзіў пошукі у літоўскіх і каронных метрыках. Супаставіўшы выпіскі з копіямі аўтэнтычных дакументаў у метрыках, знайшоў шмат недакладнасцяў, нават такіх, якія зусім змянялі змест актаў. Як прыклад такой сітуацыі, Догель указваў акт інкарпарацыі Курляндыі ў Рэч Паспалітую ў 1569 г, які ў 5 томе працы Дзюмонта мае шмат істотных памылак. Вырашыў не змяшчаць дакументы, якіх не ведаў у арыгіналах альбо па дакладных копіях. Гэтае т.зв. счытванне дакументаў было заданнем незвычайна працаёмкім, а апрача таго вельмі каштоўным. Калі захварэў на вочы, то ў архіве, у каралеўскім замку ў Кракаве, запатрабавалі ад яго за тры тыдні працы заплаціць вялікую суму: 50 чырвоных злотых (чырвоны злот складаўся з 18 тагачасных злотых). „Больш чым дзвесце злотых" павінен быў даплаціць за чатыры выпіскі з Літоўскай метрыкі на рускай мове, апрача таго, што ўжо заплаціў вялікі літоўскі канцлер Міхаіл Фрыдэрык Чартарыйскі (1696-1775), вялікі пратэктар Догеля.

У тым самым часе піяр цесна супрацоўнічае з асяродкам, які стварыўся пры бібліятэцы Залускіх, адчыненай для публікі ў 1747 г. Каб карыстацца яе зборамі, Догель, нават, пераехаў у Варшаву. Тут ён мог плённа чэрпаць, з сабранай вялікімі сіламі і коштам братоў Залускіх (кароннага рэферэнта, пазнейшага кіеўскага біскупа Юзафа Андрэя і кракаўскага біскупа Андрэя Станіслава) калекцыі гістарычных крыніц па польскаму праву і гісторыі. Сляды гэтага захаваліся сярод рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі, дзе захоўваецца м. і. незвычайна вялікая і каштоўная для пазнання тагачаснай разумовай культуры карэспандэнцыя Юзафа Андрэя Залускага (каля 8500 аркушаў з 1724-1773 гадоў). Напрыклад, 2 верасня 1754 г. Догель падрыхтаваў на лацінскай мове ліст да кароннага рэферэнта, апраўдваючы хваробаю (была гэта „febra quartana" , альбо т. зв. ліхаманка - у рэальнасці можна падазраваць нейкае віруснае запаленне дыхальных шляхоў) сваю адсутнасць на прызначаным спатканні. За пасярэдніцтвам бібліятэкара Залускіх, Яна Даніэля Яноцкага, адсылаў пазычаную кнігу. У сваю чаргу варшаўскі клімат не спрыяў вучонаму піяру, няпоўныя шэсць гадоў пазней, якраз падчас саракаднёвага побыту ў Варшаве, ён памёр ад ліхаманкі, якая была недалечана на момант выезду з Вільні.

Ведаем, што з кракаўскай бібліятэкі Андрэя Станіслава Залускага, пры пасярэдніцтве Яна Даніэля Яноцкага, атрымаў рукапісныя акты падканцлера Пятра Таміцкага (т. зв. *Acta Tomiciana*), дарадца Ян Веньямін Штайнхаузэр (1692 - 1767) даў магчымасць карыстацца выпісамі з канцлерскага архіву, які стварыў падчас выканання сваіх службовых абавязкаў. Дапамагла таксама калекцыя літоўскага стольніка і пазнейшага навагрудскага ваяводы, князя Юзафа Аляксандра Ябланоўскага (1711-1777, аматара і мецэната навукі, стваральніка Таварыства Ябланоўскага (Societas Jablonoviana) у Лейпцыгу (1768), блізкага супрацоўніка і карэспандэнта Юзафа Андрэя Залускага, аўтара шматлікіх рукапісных і друкаваных апрацаванняў, якія адносяцца да гісторыі Польшчы і яе культуры. Догель, запрошаны князем, паехаў у Ляхавец, каб скарыстаць з тамашняй каштоўнай калекцыі рукапісаў, якія адносяцца да гісторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Гэта сталася мажлівым дзякуючы пратэкцыі самога Залускага.

Настойлівая праца працягвалася ажно да 1754 г. Тады здарылася няшчасце: у доме, у якім Догель жыў у Варшаве, усчыніўся вялізны пажар і знішчыў частку сабраных матэрыялаў. У гэтай складанай сітуацыі многа важных асобаў вырашылі падтрымаць працу Догеля, а асабліва вялікі літоўскі канцлер Міхаіл Фрыдэрык Чартарыйскі і каронны падканцлер Міхаіл Вадзіцкі. 19 снежня 1754 г. піяр атрымаў прывілей ад Аўгуста III на выключнае права публікавання *Дыпламатычнага кодэкса.* 23 траўня 1755 г. падчас рады сенату ва Ўсхове была вызначана сума 2 тыс. злотых ад кароннага скарбія і 1 тыс. зл. ад літоўскага, пры ўмове, каб піяры не публікавалі працу без пісьмовага адабрэння кароннай і літоўскай канцылярый. У той час піяр, дзякуючы намаганням канцлера Яна Малахоўскага і падканцлера Караля Сядльніцкага, атрымаў права доступу да найтаемнейшага аддзела кароннага архіва, пры скарбніцы на Вавелі. Як сведчыць *Атэстацыя*, перадрукаваная ў першым томе кодэкса, работы ў гэтым архіве працягваліся да пачатку кастрычніка 1755 г. *(Атэстацыя* датуецца 4 кастрычніка). Да кола асобаў, якія падтрымлівалі яго ў гэтай справе, сам Догель дадаваў названых раней двух міністраў: Чартарыйскага і Вадзіцкага. Вялікае значэнне мела таксама значная дапамога братоў Залускіх, Яноцкага, куяўскага біскупа Антонія Себасцяна Дэмбоўскага (1682-1763), які даў Догелю выпісы з іспанскіх і неапалітанскіх архіваў, атрымаў дазвол Міхаіла Казіміра Радзівіла (1702-1762) карыстацца вельмі каштоўным архівам у Нясвіжы. Не выключаецца, што ў 1756 г. альбо на мяжы 1756 і 1757 г. Догель арганізаваў чарговую даследчую выправу за мяжу. Пры нагодзе набіраўся доследу, бегла размаўляў не толькі на старажытных мовах (лацінскай, грэчаскай), але і на французскай і нямецкай. Пошукі, аднак, не вяліся ў важным архіве крыжацкага ордэну ў Кралявцы, шведскіх і інфляндскіх архівах.

Адначасова пачаўся іншы важны перыяд у жыцці вучонага піяра. Разам з Ежым Цяпінскім (1718-1768), паэтам, прапаведнікам, выдатным знаўцам антычнай культуры (ведамі якога часта карыстаўся слаўны рускі прыродазнавец і паэт Міхаіл Ламаносаў) Догель уключыўся ў справы сваёй ордэнскай правінцыі. Цяпінскі, Догель і Каспер Тшэшкоўскі, які быў тройчы правінцыялам літоўскай правінцыі (у 1751-1754, 1760-1766 гадах), сталі ў Літве галоўнымі абаронцамі зменаў у піярскіх школах у духу рэформы Станіслава Канарскага. Супрацу у адносінах да зменаў быў яшчэ мацнейшым, чым у польскай правінцыі. Поспех прыйшоў толькі падчас паўторнага тэрміну кіравання правінцыяла Тшэшкоўскага, ужо пасля смерці Догеля (доказам з'яўляецца праца Цяпінскага "Метады навучання..." *(Methodus docendi...)*, напісанная па даручэнні правінцыяла і апублікаваная ў 1762 г.).

*(Працяг у наст. нум.)*

# Белпошта для Беларусі

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

РУЖАНЫ

1784 - 1788

Палац Сапегаў

Каму

Куды

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

Мінская ратуша

Каму

Куды

адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі

БУДЫНАК ПАЗЯМЕЛЬНА-СЯЛЯНСКАГА БАНКА у г. Магілёве

ЗАРАЗ У БУДЫНКУ ЗНАХОДЗІЦЦА МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ ІМЯ П. В. МАСЛЕНІКАВА

Каму

Куды




"Белпошта" выпусціла канверты з выявамі палаца Сапегаў у Ружанах (мастак М. Рыжы), Менскай ратушы (мастак А. Рыбчынскі), колішняга Магілёўскага зямельнага банка, зараз тут Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. В. Масленікава (мастак А. Фадзеева). Усе выданні традыцыйна беларускамоўныя.

Да 23 лютага "Белпошта" выпусціла шэраг беларускамоўных паштовак на вайсковую тэматыку, якія, дарэчы, карыстаюцца немалой папулярнасцю.

*Наш кар.*

## СЁЛЕТА "БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ" ВЫПУСЦІЦЬ КАЛЯ 30 НОВЫХ ВЫДАННЯЎ

Сёлета выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выпусціць каля 30 новых, у тым ліку дзевяць сацыяльна значных выданняў. Пра гэта ў інтэрвію БелаПАН паведаміла намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Людміла Календа.

Паводле яе слоў, сёлета ўбачаць свет другі і трэці тамы шасцітомнай энцыклапедыі "Рэспубліка Беларусь" на рускай мове, том "Брэсцкая вобласць" у серыі "Гарады і вёскі Беларусі", другі том двухтомніка "Вялікае княства Літоўскае", энцыклапедыя "Блакітны скарб Беларусі" і "Турыстычная энцыклапедыя Беларусі" (на рускай мове).

"Цікавасць у спецыялістаў выкліча энцыклапедычны даведнік з двух ілюстраваных тамоў, прысвечаны гісторыі развіцця мужчынскага і жаночага касцюмаў у Беларусі, — зазначыла Л.Календа. — У выданне ўвойдуць апісанні ўсіх касцюмаў, што існавалі на тэрыторыі Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён, у тым ліку адзенне першабытных людзей, свецкія, ваенныя і народныя касцюмы, адзенне шляхты і магнатаў, сялян і гараджан".

Паводле яе слоў, на аснове 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі" будзе выдадзены яе скарочаны аднатомны варыянт "Беларускі энцыклапедычны слоўнік" з універсальнай інфармацыяй. У серыі "Помнікі гістарычнай думкі Беларусі" выйдуць першы і другі тамы трохтомніка Яўхіма Карскага "Беларусы", а таксама факсімільнае выданне Пятра Сямёнава-Цян-Шанскага "Верхняе Падняпроўе і Беларусь" (на рускай мове).

У серыі "Энцыклапедычнай бібліятэчкі самаадукацыі" выйдуць пяць кніг (усе на рускай мове), у тым ліку "Светапогляд славянаў" Фёдара Буслаева, "Лекцыі па гісторыі заходняй Расіі" Міхаіла Каяловіча, "Прагрэс як эвалюцыя жорсткасці" Барыса Энгельгарта і "Выхаванне разумовае, духоўнае і фізічнае. Выхаванне характару" Герберта Спенсера. У сакавіку выйдзе даведнік Барыса Далгатовіча "Салдацкая слава" (на рускай мове) пра воінаў, якія сталі ў гады Вялікай Айчыннай вайны поўнымі кавалерамі ордэна Славы трох ступеняў.

*М. ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## У МЕНСКУ ЎПЕРШЫНЮ ПРАДСТАЎЛЕНА ШЫРОКАЙ ПУБЛІЦЫ ПЕРАПІСКА ВЯДОМАГА ГІСТОРЫКА М.УЛАШЧЫКА СА СЛАВУТЫМІ ПІСЬМЕННІКАМІ БЕЛАРУСІ

14 лютага ў чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа (ЦНБ) Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) прайшла прэзентацыя выставы "Руплівы даследчык беларускай мінуўшчыны", прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага гісторыка, археографа, этнографа, краязнаўцы і літаратара Мікалая Улашчыка (1906—1986).

Як адзначыла на адкрыцці выставы загадчыца сектара рукапісаў ЦНБ Таццяна Жук, на ёй упершыню прадстаўлены дакументы, рукапісы навуковых прац і іх выданні, а таксама перапіска М.Улашчыка са славутымі пісьменнікамі Беларусі — Ларысай Геніюш, Уладзімірам Караткевічам, Сяргеем Грахоўскім, Уладзімірам Арловым і інш.

Вядомы беларускі гісторык-архівіст Віталь Скалабан падкрэсліў, што М. Улашчыку ў жыцці выпала роля "быць прадстаўніком беларускасці ў Маскве". "На выстаўцы мы можам бачыць тое лепшае, што знаходзіцца ў архіве, — радавод, фотаздымкі, унікальная эпісталярная спадчына", — адзначыў В. Скалабан.

Яшчэ пры жыцці вучоны перадаў на захаванне ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі частку свайго асабістага архіва. Пасля смерці М. Улашчыка бібліятэка атрымала ад яго сына астатнія матэрыялы і асобныя экзэмпляры з кнігазбору.

*Генадзь ШАРЫПКІН, БелаПАН.*

## У МЕНСКУ ВЫДАДЗЕНЫ БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК, ПРЫСВЕЧАНЫ 100-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ГІСТОРЫКА М.УЛАШЧЫКА

Менск, 18 лютага. У Менску выдадзены біябібліяграфічны паказальнік, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага гісторыка, археографа, археолага, этнографа, краязнаўцы і літаратара, доктара гістарычных навук Мікалая Улашчыка (1906—1986).

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік калектыву складальнікаў выдання кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан, 96-старонкавы паказальнік выдадзены Нацыянальнай бібліятэкай, Нацыянальным архівам, Беларускім навукова-даследчым інстытутам справаводства і архіўнай справы, а таксама Археаграфічнай камісіяй Камітэта па архівах і справаводстве пры Савеце міністраў. У даведнік уключаны храналагічны паказальнік работ вучонага і рэцэнзіі на іх, пералік кніг, выдадзеных з яго ўдзелам, а таксама літаратура пры жыццё і дзейнасць М.Улашчыка. Апрача таго, у выданне ўвайшоў алфавітны спіс прац гісторыка, імянны і геаграфічны паказальнікі.

Паводле слоў В. Скалабана, разглядаецца праект выпуску CD-дыска, у які плануецца ўключыць матэрыялы паказальніка, а таксама выбраныя працы вучонага і фатаграфіі. Прадмову да кнігі напісаў вядомы беларускі гісторык і літаратуразнаўца Аляксей Каўка, які жыве ў Маскве.

Гэта другое, дапрацаванае выданне. Першае, прысвечанае 90-годдзю вядомага вучонага, выйшла ў свет у 1996 годзе.

Варта зазначыць, што М.Улашчык у гады сталінскіх рэпрэсій быў чатыры разы асуджаны і адбываў пакаранне ў Кіраўскай і Новасібірскай, Кемераўскай і Чэлябінскай абласцях, а таксама ў Сібірскім лагеры пасёлка Суслава. Толькі ў 1955 годзе ён вярнуўся ў Маскву, дзе да 1986 года займаў пасаду навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР. Галоўныя кірункі даследаванняў вучонага — праблемы аграрнай гісторыі, крыніцазнаўства, археаграфіі Беларусі і айчыннага летапісання.

*М. ГАРАВЫ, БелаПАН.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 02. 2006 г. у 10.00. Замова № 289.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.